# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

і

## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

---

### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР.

№ 6.

АРТЫКУЛЫ
124—196.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ⋄ 1923 ⋄ Крэмль.

# АД РЭДАКЦЫІ ВЕСЬНІКУ РАБОЧАГА І СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ САЮЗУ ССР.

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 27 ліпеня г. г., выдаецца афіцыяльны ўрадовы орган *«Весьнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік»*, у якім, шляхам заканадаўчага агалашэньня, друкуюцца ўсе дэкрэты і пастановы рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР на шасьцёх мовах: расейскай, украінскай, беларускай, грузінскай, армянскай і тюрка-татарскай (арт. 34 Констытуцыі Саюзу ССР).

Маючы на ўвазе забясьпечыць усе органы Рэспублікі афіцыальным выданьнем пастановаў і загадаў рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР і зрабіць «Весьнік» настольным надсобнікам для ўсіх установаў, Сэкратарыят ЎЦВК, ту выкананьне паданае вышэй пастановы, на пасяджэньні 17 верасьню г. г. пастанавіу прызнаць абавязковай падпіску на *«Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР»* для губэрскіх выканкамаў у колькасьці ня менш 10 экзэмпляраў, для павятовых выканкамау — 5 экзэмпляраў і для валасных выканкамаў—1 экзэмпляр.

Дзеля паказанага, Рэдакцыя «Весьніку Ўраду» прыступіла да рассылкі вышаўшых №№ 1, 2, 3 і 4 «Весьніку» паказаным выканкамам. Што тычыцца іншых дзяржаўных органаў і установаў, дык Рэдакцыя пачне разсылку «Весьніку» толькі пасьля атрыманьня ад іх адпаведных заказаў, у якіх павінна быць паказана: 1) пэўны адрас, водлуг якога належыць высылаць «Весьнік Ўраду», 2) колькасьць выпісваемых экзэмпляраў, 3) на якой з пералічаных вышэй моваў падпісчык жадае атрымоўваць «Весьнік» і 4) на які тэрмін утвараецца падпіска.

**Усе заказы на *«Весьнік Ўраду»*, а так сама і падпісныя грошы належыць накіроўваць на аселасьць: *Москва, Тверская, 48, Главная Контора «Известий ЦИК Союза ССР и ВЦИК»*.**

**Умовы перадплаты паказаны ў абвестцы, зьмешчанай на 3-й староньцы вокладкі «Весьніку».**

Масква, Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## РАДІ НАРОДНІХ КАМІСАРІВ
## і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

---

**ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ**
**РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ**
**САЮЗУ ССР**

**№ 6.**

ЦВК
РНК
РПА

АРТЫКУЛЫ
124—196.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◦ 1923 ◦ Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**124.** **Аб рэарганізацыі Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі.**

З закончаньнем адкрытага узброенага змаганьня на знадворным і ўнутранным фронтах, пытаньні паляпшэньня дзяржаўнага апарату, як у справе гаспадарчай, гэтак і ў справе упраўленьня высоўваюцца на першы плян як важнейшыя парговыя задачы социалістычнага будаўніцтва.

Насьледаваны ал мінулага дзяржаўны апарат, па самаму свайму будаваньню непрыстасаваны да задачаў гэтага будаўніцтва і па складу свайму у большай частцы чужы аснаўным мэтам, рабоча-сялянскай дзяржавы, павінен быць у корню перабудован у бок найбольшай прастаты, таннасьці і даступнасьці дзеля працуючых масаў.

Забота аб удасканаленьні дзяржаўнага апарату і паляпшэньні яго працы павінна стаць неадкладнай задачай кожнай савецкай установы.

Агульнае кіраўніцтва усей працай па перабудаваньню і дасканаленьню савецкага апарату цалкам, а таксама ажыцьцяўленьне усіх неабходных дзеля гэтага практычных мерапрыемстваў ускладаецца на народны камісарыят рабоча-сялянскай інспэкцыі Саюзу ССР; на наркаматы РСІ саюзных рэспублік па належнасьці.

У паказаных вышэй мэтах Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць**:

1. Ускласьці на ўсе бяз выключэньня ведамствы, у асобе іх кіраўнікоў, непасрэдную адпаведнасьць перад дзяржаваю за дзеяльнасьць пад'уладных ім адміністратыўных і гаспадарчых органаў. Палажэньне, якое робіць точную адпаведнасьць асобных асобаў, якія лічуцца на пасадзе, выпрацоўваецца НКРСІ Саюзу ССР; зацьверджаецца СНК Саюзу ССР.

II. Рэарганізаваць Рабоча-Сялянскую Інспэкцыю на пачатках:

а) з'іначаньні мэтадаў працы органаў РСІ, згодна ніжэйнаступным паказаньням.

1. Дзеля зьбіраньня усіх сілаў РСІ на пачатках паляпшэньня дзяржаўнага апарату, згодна прынцыпаў навуковай організацыі працы і упраўленьня, РСІ звальняецца ад абавязкаў штодзённага усяго кантролю над усімі грашовымі і маентнымі опэрацыямі дзяржаўных органаў, а таксама ад раду іншых, ляжаўшых на ёй, абавязкаў бягучага характару, ня зьвязаных з новымі, ускладаемымі цяпер на яе, фунцыямі, згодна дэкрэту ЦВК; СНК Саюзу ССР ад 6 верасьня 1923 г., і галоўную сваю увагу зварачвае на вытворчасьць рэвізіёна-інспэкцыйных абглядаў каманднa-вузлавых пунктаў савецкай гаспадаркі і упраўленчаскага апарату, згодна загадзьдзя выпрацоўваемых РСІ і зацьверджаемых вышэйшымі законадаўчымі органамі плянаў і, ў выключных выпадках, у залежнасьці ад высоўваемых жыцьцём патрэбаў.

2. Пры вядзеньні гэтакага роду абгляданьняў РСІ павінна мець галоўнай мэтай высьненьне практычных вынікаў дзеяльнасьці гаспадарчых і адміністратыўных органаў як з адмоўнага гэтак і з палажыцельнага боку; пры знаходжаньні драпежнасьці і рознага роду злачынстваў РСІ павінна галоўную увагу зварочваць на выяўленьне тыпічных дзеля дадзенай часткі драпежнасьцяў і злачынстваў, з мэтай выпрацаваць арганізацыйныя спосабы недапушчэньня у будучым самай магчымасьці гэткага роду зьяваў, але ня ўхіляючыся у сваёй працы у бок выяўленьня асобных фактаў драпежнасьцяў або злачынстваў ці вышукваньня асобных віноўнікаў.

3. У сваёй працы па удасканаленьню дзяржаўнага апарату на пачатках навуковай організацыі працы, вытворчасьці і упраўленьня РСІ не павінна ухіляцца у бок акадэмізму, а імкнуцца да цясьнейшага зліваньня прынцыпаў навуковай тэорыі з практычным вопытам, абагульняючы гэты вопыт і праверачы абагуленыя вынікі на практыцы.

Практычнымі формамі ужываньня асновай навуковай арганізацыі працы, вытворчасьці і упраўленьня павінны быць: сыстэматычны нагляд над шточасна паўтараючыміся і тыпічнымі зьявамі у частцы упраўленчаскай працы, пастаноўка вопытаў па ужываньню найбольш мэтазгодных:

а) кшталтаў і формаў будаваньня апарату і сыстэматычнае прыцягненьне да гэтай працы рабочых і сялян, профэсыянальных саюзаў і асобных выдатных працаўнікоў.

б) падбора супрацоўнікаў з адданых савецкай уладзе рабочых, сялян, і мастакоў, выдатных на практычнай працы у гаспадарчых і адміністратыўных органах, а таксама з абучаючыхся у вышэйшых вучэбных завядзеньнях.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 верасьня 1923 г.
Масква — Крэмль.

Распублікавана у № 202 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 верасьня 1923 г.

---

## 125. Аб звальненьні Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі ад шэрагу належачых да яе функцыяў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

А. Зволіць РСІ ад ніжэй наступных функцыяў:

1. Ад дакумэнтальнага кантролю і ад усяе наступнае дакумэнтальнае рэвізыі прыбытковых і выдатковых дакумэнтаў усіх наркаматаў. Абавязаць Рабоча-Сялянскую Інспэкцыю даваць агульныя заключэньні па складзенай НКГС справаздачы аб выкананьні росьпісу дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў.

Увага. Наступны дакумэнтальны кантроль прыбыткаў і выдаткаў у межах, у якіх патрэбна будзе яго захаваць, ускладаецца на НКГС у парадку асобнага палажэньня.

2. Ад абавязковага папярэдняга разгляданьня усіх каштарысных намераў ведамстваў.

3. Ад даваньня заключэньняў наконт одпуску сродкаў асобнымі дзяржаўнымі, адміністратыўнымі і гаспадарчымі установамі, як у парадку звыш крэдытаў па каштарысу, гэтак і у парадку выдачы с'удаў і субсыдыяў, узлажыўшы наўперад гэтыя функцыі на дзяржаўную агульна-плянавую камісію (госплан) і НКГС па належнасьці.

4. Ад назіраньня за асобнымі мерапрыемствамі у справе грашовага упраўленьня, як: назіраньні за выкананьнем дэкрэтаў і пастановаў аб адзінстве скарбніц аб авансавых асыгнаваньнях, правышаючых устаноўленыя пастановай саўнаркому нормы і г. д., узлажыўшы гэтыя функцыі выключна на НКГС.

5. Ад абавязковага удзелу ў разгляданьні штомесячных выдатковых раскладаў па асыгнаваньню крэдытаў ведамстваў і загаду імі, як у цэнтры, гэтак і мясцовым установам.

6. Ад разгляданьня пытаньняў на конт пераносу крэдытаў з аднаго падразьдзяленьня па каштарысу у другое, на конт складаньня крэдытных сьпісаў, на конт пералічэньня крэдытаў на аддзел узаемных разьлічэньняў і наадварот; ад выкананьня лічбаў і наогул ад усіх, пытаньняў зьвязаных з зачыненьнам крэдытаў пры заключэньні каштарысаў, усклаўшы гэтыя абавязкі на НКГС.

7. Ад усякага агульнага бягучага кантролю і нагляду за асобнымі грашовымі опэрацыямі дзяржаўных органаў і, у зьвязку з гэтым, ад удзелу у прыёму і здачы матар'ялаў і каштоўнасьцяў; ад удзелу у публічных таргах, ад усякага абавязковага рэвізаваньня асобных бакоў дзейнасьці дзяржаўных органаў з'яўляючыхся па прыватным заявам; скаргам, а гэтак сама па паведамленьням асобных наркаматаў; ад арганізацыі пастаянных групаў дзеля рэвізіі у асобных дзяржаўных прадпрыемствах і установах і ад абследаваньняў па патрабаваньням пракуратуры, суду і высьледаваўчых органаў, а гэтак сама ад абавязковага назіраньня за правідловым з гаспадарчага боку утварэньнем умоваў, за выдачаю нарадаў і выконаньнем загатовак.

8. Ад абавязковага удзелу у паміжустаноўных і установых нарадах і пасяджэньнях, дзе гэты удзел мае характар кантролю або характар утварэньня згоды у працы асобных органаў па усякім невялічкім даручэньням і пытаньням.

Увага. Даручыць НК РСІ саюзных рэспублік у 2-х тыдневы тэрмін падаць у СНК саюзных рэспублік сьпісы усіх заўсёды працуючых камісіяў з удзелам РСІ.

9. Ад падачы заключэньняў у вышэйшыя законадаўчыя органы па усім пытаньням, ня маючым непасрэдных адносінаў да новых задачаў РСІ па паляпшэньні дзяржаўнага апарату.

10. Ад выконаньня адумысловых абавязкаў, складзеных на РСІ па бюро скаргаў, пакіраваных дзеля абароны і аховы прыватна-прававых інтарэсаў; ад прыманьня і разгляданьня заяваў і скаргаў, ня маючых паказаньняў на не дасканальнасьць дзяржаўнага апарату і на праяўляемае асобамі, якія лічуцца па пасадах, віхляйства адносна да патрэбаў і інтарэсаў рабочых і сялян, адрываючае дзяржаўны апарат ад працуючых масаў.

Увага. НК РСІ Саюзу ССР даручаецца распрацаваць і падаць на зацьверджаньне Саўнаркому Саюзу ССР новае палажэньне аб бюро скаргаў.

Б. У зьвязку з гэтай пастановай адменьваюцца наступныя дэкрэты, пастановы і загады:

### Пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту РСФСР.

а) арт. 3 пастановы ад 9 лютага 1922 г. (Зб. Уз. 1922 г., арт. 178) у мейсцы датычна удзелу прадстаўнікоў губ. РСІ у мясцовых камісіях па здачы у арэнду прамысл. прадпрыемстваў;

б) ад 27 лютага 1922 г. аб удзелу РСІ у дазволу выдаткаў бяз крэдыту па наркамваену дзеля РВС фронтаў і асобных арміяў;

в) арт. 3 пастановы ад 31 ліпеня 1922 г. аб удзелу прадстаўнікоў РСІ у разгляданьні грашовых пытаньняў, падаваемых на разьвязваньне мясцовых выканаўчых камітэтаў;

г) арт. 3 пастановы ад 19 кастрычніка 1922 г. у мейсцы датычным удзелу прадстаўнікаў РСІ у камісіі па сагласаваньню мерапрыемстваў датычна ўсерасійскай сельска-гаспадарчай выстаўкі (Зб. Уз. 1922 г., арт. 865);

а) арт. 13 пастановы ад 19 кастрычніку 1922 г. у

мейсцы датычным удзелу прадстаўнікоў РСІ у пастаяннай сельска-гаспадарчай камісіі УЦВК (Зб. Уз. 1922 г., арт. 866);

е) арт. 3 і 4 пастановы ад 17 лістападу 1922 г. аб бязмытным пропуску грузаў, якія йдуць з-закардону на адрас міжрабпамголу (Зб. Уз. 1922 г., арт. 952).

### Пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў РСФСР.

а) арт. 14 пастановы ад 10 жніўня 1922 г. аб правох на забудоўку зямельных вучасткаў у мейсцы датычным удзелу прадстаўніка РСІ у камісіі па аценцы будынкаў (Зб. Уз. 1922 г., арт. 645);

б) арт. 4 пастановы ад 30 лістападу 1922 г. аб забяспечаньні прыбываньня дзяржаўных прыбыткаў (Зб. Уз. 1922 г., арт. 1002) у мейсцы датычных РСІ;

в) арт. 8 пастановы ад 1 сакавіка 1923 г. у мейсцы датычным удзелу прадстаўніка РСІ пры разгляданьні пытаньняў аб судах на пасяджэньнях кіраўніцтва дзяржаўнага банку па аддзелу камунальнага крэдыту (Сб. Уз. 1923 г., арт. 215);

### Пастановы Савету Народных Камісараў РСФСР:

а) дэкрэт ад 26 лістападу 1918 г. і правілы папярэдняе і фактычнае рэвізыі і дапаўненьня да іх (Зб. Уз. 1918 г., арт. 898 і 1919 г., арт. 134);

б) пастанова ад 22 красавіка 1922 г. аб парадку разгляданьня пытаньняў, датычных асыгнаваньняў, прад'угаданых дзяржаўным каштарысам у мейсцы датычным удзелу адпаведнага прадстаўніка РСІ;

в) арт. 10 пастановы ад 6 ліпеня 1922 г. аб дзяржаўнай страхоўцы у мейсцы датычным падачы заключэньня НК РСІ на конт каштарысу прыбыткаў і выдаткаў, дзяржаўнае страхоўкі (Зб. Уз. 1922 г., арт. 536);

г) арт. 2 пастановы ад 25 ліпеня 1922 г, у мейсцы датычным удзелу пастаяннага прадстаўніка РСІ у савеце на конт справаў страхоўкі пры НКГС (Зб. Уз. 1922 г., арт. 581);

д) увага да арт. 1-га пастановы ад 18 жніўня 1922 г. аб удзелу прадстаўніка РСІ у камісіях дзеля закупак военведу па закупцы коняў (Зб. Уз. 1922 г., арт. 598);

е) арт. 3 пастановы ад 2 жніўня 1922 г. аб зьбераганьні знаходзячыхся у загадзе мытных установаў тавараў на складах, адтрымоўваючых грузы у мейсцы датычным НК РСІ у ўстанаўленый правілаў зьберaданьня. тэрмінаў і парадку плацяжу. (Зб. Уз. 1922 г., арт. 615);

ж) арт. 2 пастановы ад 1 лістападу 1922 г. аб прадажы з аукцыоннага торгу забракаваных коняў і аб аплаце НКЗ коняў, збракоўваемых з чырванае арміі у мейсцы датычным удзелу НК РСІ у устаноўленьні ценаў (Зб. Уз. 1922 г., арт. 930);

з) арт. арт. 6, 9, 10 і 15 дэкрэту ац 11 лістападу 1922 г. аб галоўных падставах падачы і разгляданьня грашовых каштарысаў установаў і росьпісў агульна дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў на 1923 г. (Зб. уз. 1922 г., арт. 961) у мейсцы датычным РСІ;

і) пастанова ад 6 лютага 1923 г. аб авансавых выдачах у лік дзейных крэдытаў па каштарысу у мейсцы датычна удзелу НК РСІ пры устанаўленьні прадзельных нормаў па гэтым выдачам (Зб. Уз. 1923 г., арт. 134);

к) п. 5 пастановы ад 2 студзеня аб мерах 23 г.91 дзеля урэгуліраваньня гандлёвых апэрацыяў дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў (Зя. Уз. 1923 г., арт. 173);

л) арт. 2 пастановы, ад 16 лютага 1923 г. у мейсцы датычным удзелу РСІ у камісіі аб вызначэньні пэрсональных пэнсыяў (Зб. Уз. 1923 г., арт. 198);

м) арт., арт. 9, 10, 11, 12 і 13 пастановы ад 12 красавіка 1923 г. аб контынгэнтах, ліцэнзіях і пасьведчаньнях на прывоз і вываз (Зб. Уз. 1923 г., арт. 424) у мейсцы датычным удзелу РСІ у экспортных бюро;

н) арт. 5 палажэньня аб аддзелах узаемных разьлікаў пры установах дзяржаўнага банку ад 3 ліпеня 1923 г. у мейсцы датычным РСІ.

### Пастановы Савету Працы і Абароны РСФСР.

а) арт. 6 пастановы ад 21 сакавіка 1922 г. аб мерах змаганьня з злачынствамі і драпежніцтвамі пры загатоўцы, вывазу, сплаву і транспарту лесаматэр'ялаў у месцы, датычным РСІ (З. У. 1922 г. арт. 290);

б) арт. 3 пастановы ад 28 красавіка 1922 г. аб дарожным будаўніцтве у месцы, датычным удзелу прадстаўніка РСІ у асобнай камісіі пры ВСНГ па разьмяркаваньню паміж ГУГС і НКЖЗ маемасьці і матэр'ялаў ліквідуемых будынкаў (З. У. 1922 г., арт. 375);

в) арт. 4 пастановы ад жніўня 1922 г. аб камісіі СПА па учоту і рэалізацыі дзяржаўных фондаў у месцы, датычным прыцягненьня прадстаўнікоў НК РСІ да абсьледаваньняў (З. У. 1922 г., арт. 638);

г) арт. 4 пастановы ад 11 жніўня 1922 г. аб фонду дзеля фінансаваньня краін губнар у месцы датычным падачы справаздачаў водлуг выдаткаваньня сумаў у ГубРСІ (З. У. 1922 г., арт. 652);

д) арт. 8 палажэньня аб транспартных тарыфах і аб установах па тарыфным справам (З. У. 1922 г., арт. 653) у месцы датычным удзелу РСІ у тарыфным камітэту;

е) пастанова ад 30 жніўня 1922 г. у месцы датычным нагляду органаў РСІ за выдаткаваньнем харчфуражу ваенным ведамствам па прамому назначэньню і ў межах законных нормаў;

ж) пастанова ад 1 версьня 1922 г. аб сумесных лятучых рэвізіях шуканых органаў у мэтах змаганьня з хабарніцтвам у месцы, датычна удзелу РСІ;

з) арт. 1 пастановы ад 5 верасьня 1922 г., у месцы датычным удзелу прадстаўніка РСІ у краін. і губкамісіях СПА па учоту дзярж. фондаў (З. У. 1923 г., арт. 720);

і) арт. 1 пастановы ад 8 верасьня 1922 г. у месцы, датычным удзелу прадстаўніка РСІ у камісіі пры ЦУЛП наркамзему па разьмяркаваньню лесасек (З. У. 1922 г., арт. 735);

к) пастанова ад 20 верасьня 1922 г. у месцы, датычным удзелу РСІ у сыстэматычным змаганьні з хабарніцтвам;

л) арт. 3 і 4 пастановы ад 29 верасьня 1922 г. у месцы. датычным удзелу прадстаўнікоў РСІ у аддзеле ліцэнзіяў пры НКЗГ і краінных адзелах ліцэнзіяў (З. У. 1922 г., арт. 815);

м) арт. 5 пастановы ад 6 кастрычніка 1922 г. аб забароне ведамствам рабіць зборы з супрацоўнікоў і асобаў, зварочваючых да ведамстваў бяз згоды на

гэта установаў, якім дадзена права рабіць зборы у месцы, датычным нагляду за выкананьнем гэтае пастановы (З. У. 1922 г., арт. 800);

н) арт. 7 пастановы ад 13 сьнежня 1922 г. аб парадку выдаткаваньня харчаваньня гаспадарчымі органамі у месцы, датычным падачы справаздачы па выдаткаваньню у РСІ (З. У. 1922 г., арт. 1032);

о) арт. 1 і 2 разьдзелу II палажэньня аб сплаву лесу у 1923 г.—ад 5 сакавіка 1923 г. у месцы, датычным РСІ (З. У. 1923 г., арт. 229);

п) арт. 7 інструкцыі аб парадку бязмытнага пропуску у Саюзе ССР грузаў, якія ўвозяцца групамі рабочых і асобнымі асобамі с.-г. і прамысловай іміграцыі, ад 16 сакавіка 1923 г. (З. У. 1923 г., арт. 267 у месцы, датычным паведамленьня РСІ аб выпуску грузаў;

р) арт. 1 палажжьня аб парадку найму і выкарыстаньня памяшканьняў дзеля складаньня гандлёвымі прадстаўніцтвамі і гаспадарчымі органамі закардонам, ад 21 сакавіка 1923 г. (З. У. 1922 году, арт. 268 у месцы, датычным РСІ

с) пастанова ад 11 траўня 1923 г. у месцы, датычным удзелу прадстаўніка РСІ камісіях і нарадах па партовым справам.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рэспублікавана у № 202 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 8 верасьня 1923 г.

6-га верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 126. Аб утварэньні шточаснай камісіі замежнай дапамогі пры Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дзеля аб'яднаньня і накіраваньня усіх выглядаў замежнай дапамогі савецкім рэспублікам—з аднаго боку, і кіраваньня дзеяльнасьцю за межамі савецкіх арганізацыяў дапамогі—з другога, утвараецца шточасная камісія замежнай дапамогі пры Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР.

> Увага. У веданьне памянёнай камісіі пераходзіць асобны камітэт па арганізацыі замежных артыстычных турнэ і мастацкіх выставак.

2. Камісія замежнай дапамогі утвараецца з прадстаўнікоў:

Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР сэкцыі па адбудаваньню сельскай гаспадаркі пры Камітэту дапамогі сельскай гаспадарцы пры УЦВК, дзіцячай камісіі УЦВК, УЦСПС, народнага камісарыяту замежнага гандлю, народнага камісарыяту асьветы РСФСР, народнага камісарыяту аховы здароўя РСФСР, наркамзему РСФСР, межрабкому і шточаснай камісіі па сельска-гаспадарчай і прамысловай іміграцыі пры Савету Працы і Абароны Саюзу ССР.

3. З утварэньнем камісіі замежнай дапамогі пры Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР, да яе пераходзяць функцыі аднячасова з гэтым ліквідуемых: замежнай камісіі асобнай сэкцыі камітэту дапамогі сельскай гаспадарцы пры УЦВК, утворанай згодна пастановы УЦВК ад 24 ліпеня 1923 г., і ўсіх органаў, якія вядуць у саюзных рэспубліках працу, памянёную у п. 1 гэтае пастановы.

4. Усе умовы і улагоджаньні, зробленыя гэтымі органамі, а таксама наркаматамі саюзных рэспублік, павінны быць у месячны тэрмін з дня апублікаваньня гэтага пададзены у камісію замежнай дапамогі пры Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР дзеля разгляданьня і зацьверджаньня іх.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 203 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 верасьня 1923 г.

---

## 127. Аб агульнай дапамозе сем'ям асобаў, прызваных да адбываньня абавязковай ваеннай службы у чырвонай арміі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Прызыў сельскіх працаўнікаў у чырвоную армію і флёт, малая дапамога, а часта і поўная адсутнасьць яе сям'ям прызваных, давялі да вялікага разбураньня гаспадаркі апошніх.

Голад у 1921 г. і 1922 г. павялічылі гэту разруху. Многія сем'і вымерлі, а гаспадаркі іх перайшлі па кабальным зьдзелкам да кулакоў. Варочаючыяся па дэмабілізацыі з чырвонай арміі і флёту працаўнікі часта не знаходзяць у родных месцах прытулку, належачыя іх сям'ям дамы перайшлі у ўласнасьць кулакоў па кабальным зьдзелкам.

Патрэбна прыняць самыя рашучыя меры да спыненьня адзначанай ненармальнай зьявы. Дзеля гэтага усім выканауч. камітэтам загадваецца:

1. Рабіць усімі мерамі дапамогу сям'ям асобаў, прызваных да адбываньня абавязковай ваеннай службы у чырвонай арміі і флёце, і асабліва тым сям'ям, у якіх не засталося працаздольных працаўнікоў.

2. У выпадку заключэньня гэтымі сям'ямі, з прычыны цяжкай нэндзы, яўна нявыгадных зьдзелак па маемасьці двора (пабудоўкі, сельска-гаспадарчы жывы і няжывы інвэнтар і інш.), прад'яўляць, належна арт. 33 грамадзянскага кодэксу, па ўласнай ініцыятывы іскі у грамадзянскім суду аб скасаваньні памяннёых зьдзелак або аб спыненьні дзейнасьці іх на будучы час і падтрымліваць гэтыя іскі на суду праз сваіх прадстаўнікоў.

Асобы, якія лічуцца на пасадзе і вінаватыя у незахаваньні памянёных абавязкаў, павінны прыцягвацца да адпаведнасьці во длуг арт. 110 карнага кодэксу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рэспублікавана у № 209 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 16 верасьня 1923 г.

14 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**128.** **Аб з'іначаньні часовых правілаў абкладаньня параўнаўчым зборам дзяржаўных трэстаў, сіндыкатаў, камбінатаў, акцыанэрных зьмешаных таварыстваў, таварыстваў ўзаемнага крэдыту, банкаў і саюзаў коопэратываў.**

Дзеля з'іначаньня арт. 3, арт. 10 і увагі да арт. 10 часовых правілаў абкладаньня параўнаўчым зборам дзяржаўных трэстаў, сіндыкатаў, камбінатаў, акцыанэрных і зьмешаных таварыстваў, таварыстваў ўзаемнага кредыту, банкаў і саюзаў коопэратываў (З. У. 1923 г., арт. 89, дадатак 7-ы), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. У артыкулу 3-м правілаў словы: „у працягу першага месяцу", замяніць словамі: „у працягу першых двух месяцаў".

2. У артыкулу 10-м правілаў словы: „у працягу 2-х месяцаў,—замяніць словамі: „у працягу 3-х месяцаў".

3. Увагу да арт. 10-га правілаў выкласьці наступным чынам: „дзеля спыненьня памянёных у арт. 10 вынікаў непадачы у тэрмін справаздачы і дадатковых да яе довадаў, кіраўніцтвам даецца унясьці у скарбніцу губэрнскага аддзелу грашовых справаў, у працягу 2-х першых месяцаў акладнога пэрыоду суму параўнаўчага збору, належачага з прадпрыемства водлуг прыблізнага разьліку кіраўніцтва, і у працягу наступных 3-х месяцаў падаць справаздачу. Калі па праверцы пададзенай справаздачы губерскі аддзел грашовых справаў прызнае ўнесеную раней суму малой, дык з прадпрыемства спаганяецца належная даплата з пэняй, вылічаемай з першага лічніку 3-га месяцу акладнога пэрыоду па дзень выплаты, у памерах і у парадку, прадгледжаных палажэньнем аб спагнаньні падаткаў і збораў (З. У, 1923 г., арт. 550) і належнымі інструкцыямі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 209 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 16 верасьня 1923 г.

---

**129.** **Аб скарачэньні пераліку мясцовых падаткаў і збораў.**

Дзеля з'іначаньня пастановы УЦВК і СНК ад 22 чэрвеня 1922 г. аб увядзеньні падатку (З. У. 1922 г., арт. 495) ад 29 жніўня 1922 г. аб з'іначаньні пераліку мясцовых падаткаў і збораў (З У. 1922 г. арт. 696) і ад 16 лістападу 1922 г. аб прыбытках, зварачваемых на павялічэньне мясцовых сродкаў (З. У. 1922 г., арт. 957) і ў адмену дэкрэту СНК РСФСР ад 31 кастрычніка 1922 г. аб мясцовым кватэрным падатку (З. У. 1922 г., арт. 889), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Выключыць з пераліку мясцовых падаткаў і збораў наступныя мясцовыя падаткі і зборы:

**А. У гарадскіх пасяленьнях.**

1. Падатак з кватэр (арт. 3 разьдзелу А пастановы УЦВК і СНК ад 29 жніўня 1922 г.).

2. Збор за карыстааньне грамадзянскімі вагамі (арт. 15 разьдзелу А, пастановы ад 29 жніўня 1922 г.).

**Б. Знадворку гарадскіх пасяленьняў.**

1. Збор за карыстаньне грамадзянскімі вагамі (арт. 10 разьдзелу Б, пастановы ад 29 жніўня 1922 г.).

2. Падатак з коняў і экіпажаў дзеля выезду, належачых як прыватным асобам, таварыствам і прадпрыемствам, гэтак і ўрадавым установам і прадпрыемствам (арт. 12 разьдзелу Б, пастановы ад 29 жніўня 1922 г.).

3. Падатак (арт. 14, разьдзелу Б, пастановы ад 29 жніўня 1922 г.).

4. Падатак з плакатаў, афішаў, і сьветавых рэкламаў (арт. 15, разьдзелу Б, пастановы ад 29 жніўня 1922 г.).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СПК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 209 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 16 верасьня 1923 г.

---

**130.** **Ад пашырэньні пастановы УЦВК ад 5 верасьня 1923 аб праверцы тэрмомэтраў на тэрыторыі Саюзу ССР.**

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дзейнасьць пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ад 5 верасьня 1923 г. аб праверцы тэрмомэтраў пашырыць на ўсю тэрыторыю Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікована у № 209 „Известий" ЦВК Союзу ССР ад 16 верасьня 1923 г.

---

**131.** **Аб дачы дапамогі працуючым Японіі у зьвязку з здарыўшайся у ёй катастрофай.**

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. У належнасьці з пастановай Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 4 верасьня 1923 г., угварыць пры Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР цэнтральную камісію па дачы дапамогі пацярпеўшаму працоўнаму насельніцтву Японіі пад старшынствам сябры Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР тав. Вінакурава, у складзе прадстаўнікоў: народнага камісарыяту па замежным справам, народнага камісарыяту замежнага гандлю, народнага камісарыяту грашовых справаў, вышэйшага савету народнай гаспадаркі Саюзу ССР, народнага ка-

місарыяту шляхаў зносін, народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР, усерасійскага цэнтральнага савету профэсыянальных саюзаў; і цэнтрасаюзу з тым, каб частка працы гэтай камісіі, па згодзе з ўрадам Японіі, была перанесена непасрэдна на месца катастрофы ў Японію.

2. Авансыраваць у загад цэнтральнай камісіі па дачы дапамогі працоўнаму насельніцтву Японіі дзьвесьце тысячаў рублёў золатам і даручыць ёй зараз жа высьніць з належнымі ведамствамі у якіх формах можа быць найхутчэйшым чынам зроблена дапамога Японіі і паведаміць Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР свае заключэньне.

3. Прапанаваць народнаму камісарыяту замежнага гандлю не абкладаць мытнымі зборамі грузы, адпраўляемыя у адрас арганізацыі па дачы дапамогі па цярпеўшым у Японіі.

4. Прапанаваць народнаму камісарыяту шляхаў зносін устанавіць дарэмную перавозку ахвяраў з Саюзу ССР у Японію, а таксама увясьці льготны тарыф дзеля транзытных перавозак замежных грузаў, напраўляючых у адрас арганізацыі па дачы дапамогі Японіі.

5. Абавязаць народны камісарыят аховы здароўя РСФСР і Цэнтральны Камітэт Расійскага таварыства чырвонага крыжу забясьпечыць врачэбна-пітацельны адрад, адпраўляемы 7-га верасьня у Японію, да канца яго працы мэдыцынскім снабжэньнем і гаспадарчым абарудаваньнем.

6. Прапанаваць народнаму камісарыяту-харчаваньня Саюзу ССР даць тэлеграфны загад праз Далёка-Усходняе Упраўленьне рыбалоўства аб арганізацыі збору рыбапродуктамі сярод коопэратыўных арганізацыяў і рыбапрамыслоўцаў Далёкага Усходу.

7. Прыняць да вядомкі паведамленьні:

а) нарады цэнтральных коопэратыўных арганізацыяў аб асігнаваньні 1.850 чырвонцаў на дачу дапамогі па цярпеўшаму насельніцтву Японіі, а таксама аб пачатку падпіскі па унясеньню ахвяраваньняў мясцовымі коопэратыўнымі арганізацыямі;

б) Маскоўскага Біржавага Камітэту аб асігнаваньні 25.000 зал. рублёў, а таксама аб арганізацыі грашовай дапамогі пры пасрэднасьці мясцовых біржаў;

в) акцыянэрнага таварыства „Экспортхлеб“ аб вядзеньні ахвяраваньняў хлебам з южных партоў.

8. Прапанаваць усім арганізацыям і установам усе, якія маюцца у іх сумы, прызначаныя дзеля дачы дапамогі пацярпеўшаму працоўнаму насельніцтву Японіі, а таксама і наўперад паступаючыя ахвяры, перадаваць у цэнтральную камісію па дачы дапамогі пацярпеўшаму насельніцтву Японіі.

9. Прапанаваць дзяржаўнаму банку Саюзу ССР адчыніць у сваіх адзяленьнях адумысловы бягучы рахунак цэнтральнай камісіі дзеля прыёму ахвяраў.

10. Прапанаваць цэнтральнай камісіі выпрацаваць меры, разьлічаныя на больш даўгую арганізацыйную дапамогу, праз збор ахвяраў, распрацоўкі пры пасрэднасьці цэнтральнага упраўленьня лясамі наркамзему РСФСР і цэнтральнага упраўленьня лясной прамысловасьці ВСНГ Саюзу ССР пытаньня аб здачы на льготных умовах лясных дзялянак на Далёкім Усходзе дзеля скарыстаньня іх гаруючым працоўным насельніцтвам Японіі, распрацоўкі праз народны камісарыят харчаваньня пытаньня аб адводу рыбалоўных нучасткаў на Далёкім Усходзе на льготных падставахі інш.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 211 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 19 верасьня 1923 г.

---

## 132. Аб з'іначаньні арт. 13 палажэньня аб прампадатку.

Дзеля з'іначаньня арт. 13 пастановы УЦВК і СНК ад 18 студзеня 1923 г. аб прамысловым падатку (З. У., арт. 89) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Устанаўленьне льготаў па абкладаньню прамысловым падаткам (выняткі з абкладаньня, або зьніжанае абкладаньне дзеля некаторых катэгорыяў прадпрыемстваў) даецца Нараднаму Камісару Грашовых Справаў Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукидзе.**

19 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 213 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 21 верасьня 1923 г.

---

## 133. Аб парадку абкладаньня прамысловым падаткам заняткаў гандлёвай пасрэднасьцю.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

I. Дапоўніць 3-і разрад раскладу разрадаў гандлёвых прадпрыемстваў (дадатак 2-і да палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку (З. У. РСФСР 1923 г., № 5, арт. 89) пунктам 15 наступнага зьместу:

15. Гандлёвая пасрэднасьць, якая робіцца аднаасабова у выглядзе свабоднага промыслу (камісіянэры, макляры, і інш.) як з утрыманьнем дзеля гэтага занятку асобных памешканьняў, гэтак і бяз іх.

> У в а г а. Гэты пункт не пашыраецца на заняткі гандлёвай пасрэднасьцю, якія носяць характар выкананьня абавязкаў па найму, а таксама на заняткі па абслугаўваньню аднаго вядомага прадпрыемства (каміваяжэры, агенты і інш.)

II. Даручыць народнаму камісарыяту грашовых справаў выдаць інструкцыю аб парадку абкладаньня заняткаў гандлёвай пасрэднасьцю параўнаўчым зборам.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СКН Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 221 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 30 верасьня 1923 г.

**134.** **Аб з'іначаньні арт. арт. 45 і 46 дэкрэту УЦВК, СНК ад 10 красавіка 1923 г. аб дзяржаўных прамысловых прадпрыемствах, дзеючых на пачатках камэрцыйнага разьліку (трэстах).**

Дзеля з'іначаньня дэкрэту УЦВК і СНК ад 10 красавіка 1923 г. аб дзяржаўных прамысловых прадпрыемствах, дзеючых на пачатках камэрцыйнага разьліку (трэстах) (З. У. РСФСР 1923 г., № 29, арт. 336) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:** выкласьці арт. арт. 45 і 46 названага дэкрэту у наступнай рэдакцыі:

45. Увесь прыбытак трэстаў уносіцца у прыбытак казны, за выключэньнем адлічэньня ня меньш 20% у рэзэрвовы капітал трэсту пакуль апошні не дасягне палловы статутнага капіталу, адлічэньняў на утварэньне адумысловага фанду дзеля паляпшэньня быту рабочых і адлічэньняў на выдачу танцьемаў сябрам кіраўніцтва і наградных рабочым і служачым.

Вячічыня адлічэньняў і рэзэрвовы капітал, а таксама вялічыня танцьемаў і наградных вызначаецца штогодна пастановаю вышэйшага савету народнай гаспадаркі, а вялічыня адлічэньняў і адумысловы фонд дзеля паляпшэньня быту рабочых і часткі прыбытку, якая падлягае абавязковаму ўнясеньню у прыбытак казны, вызначаецца вышэйшым саветам народнай гаспадаркі па згодзе з народным камісарыятам грашовых спраў.

46. Рэзэрвовы капітал служыць як дзеля пакрыцьця стратаў, гэтак і дзеля пашырэньня прадпрыемстваў.

Па дасягненьні рэзэрвовым капіталам паловы статутнага капіталу ВСНГ можа, у парадку з'іначаньня статуту, падняць пытаньне аб належным павялічэньні статутнага капіталу праз пералічэньні у яго часткі рэзэрвовага капіталу.

Усе выдаткі па паляпшэньню быту рабочых і служачых могуць рабіцца трэстам толькі тады, калі ёсьць у яго адумысловы фонд дзеля паляпшэньня быту рабочых і служачых і толькі за кошт сумаў гэтага фонду.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ЦВК* **А. Енукідзе.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 221 „Известий" ЦВК Саюза ССР ад 30 верасьня 1923 г.

---

**135.** **Аб адлічэньні 25% прыбытку ад дзярж. зямельн. маемасьцяў.**

Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам
РСФСР
УССР
ЗСФСР
БССР

Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР на пасяджэньні ад 10-га жніўня 1923 году **пастанавіў:**

У дадатак да пастановы Прэзыдыуму ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г. да п. 2 прыняць і разаслаць цыркулярна аб тым, што большая частка адлічаемых у мясцовыя сродкі 25% прыбыткаў ад дзяр. зямельн. маемасьцяў павінна траціцца на учот і адбудову дзяржаўных зямельных маемасьцяў.

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

10 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**136. Аб устанаўленьні адзінаабразнага опэрацыёнага пэрыоду дзеля крэдытныя установаў.**

Дзеля неабходнасьці устанавіць адзінаабразны опэрацыёны пэрыод дзеля крэдытных установаў і дастасаваць яго да бюджэтнага году Савет Народных Камісараў **пастанавіў:**

Дзеля крэдытных установаў опэрацыёны пэрыод устанаўляецца з 1 кастрычніка па 30 верасьня, кожнага году, да гэтага дню павінны быць закончаны кнігі за год і складзен гадавы баланс і справаздача.

Гэта пастанова пашыраецца так сама на Дзяржаўны Банк і на ўсе крэдытныя установы, статуты якіх зацьверджаны у заканадаўчым парадку.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

30 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**137. Аб дачы Наркамфіну права дадатковага выпуску аблігацыяў 2-га ўнутранага кароткатэрміновага дзяржаўнага хлебнага займу.**

У дадатак да пастановы ЎЦВК і СНК ад 22-га сакавіка 1923 г. аб выпуску 2-га ўнутранага кароткатэрміновага дзяржаўнага хлебнага займу (З. І. 1923 г., арт. 278) і пастановы ад 5 чэрвеня аб дадатковым выпуску аблігацыяў на 30 міл. пуд.—Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Даць народнаму камісарыяту грашовых справаў права дадатковага выпуску аблігацыяў 2-га ўнутранага кароткатэрміновага дзяржаўнага хлебнага займу у 4-х сэрыях на суму 40 міл. пуд. жыта зярном.

2. На выпускаемыя дадаткова у 4-х сэрыях аблігацыі 2-га дзяржаўнага хлебнага займу пашырыць дзейнасьць пастановы УЦВК і СНК ад 22-га сакавіка 1923 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 192 „Известия“ ЦВК Саюзу ССР ад 28 жвіуня 1923 г.

---

**138. Аб з'іначаньні сыстэмы акцызнага абкладаньня мёду, квасу, фруктавых і штучных мінэральных водаў.**

Дзеля з'іначаньня пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 3-га лютага 1922 г. аб акцызу з піва, мёду, квасу і фруктавых і штучных мінэральных водаў (З. У. 1922 г., арт. 157) і ад 19-га красавіка 1923 г. аб устанаўленьні вялічыні акцызных ставак на рэчы, абкладваемыя акцызам (З. У. 1923 г., арт. 362). Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць аплату акцызам мёду і квасу з утрыманьнем алкаголю ня звыш паўтара градусаў па Траллесу, фруктавых і штучных мінэральных водаў праз выбарку асобных патэнтаў.

> Увага. Мёд з утрыманьнем алкаголю звыш паўтара градусаў, але ня больш васьмі градусаў па Траллесу аплачваецца акцызам па стаўцы, устаноўленай дзеля пладоваягадных вінаў.

Вырабка мёду моцнасьцю звыш 8 градусаў не дапушчаецца.

2. Патэнты на вырабку памянёных у арт. 1 напіткаў устанаўліваюцца: а) аснаўныя; б) дадатковыя. Аснаўны патэнты збор ўносіцца у казну па чвэрцям году, а дадатковы выплачваецца толькі у выпадку вырабкі

мёду, квасу, фруктавых і штучных мінэральных водаў у колькасьці перавышаючай паказаную у арт. 4-ым норму.

3. Завядзеньні дзеля вырабкі мёду, квасу, фруктавых і штучных мінэральных водаў па месцу іх знаходжаньня падзяляюцца на тры групы. Да першай групы далічаюцца завядзеньні, знаходзячыяся ў Маскве і Петраградзе, да другой — у губэрскіх і краінных местах і да трэцяй — у ва ўсей рэшце мясцовасьцяў.

4. Норма абмяжаванай паўгадавой вырабаткі мёду, квасу, фруктавых і штучных мінэральных водаў па аснаўному патэнту устанаўляецца дзеля завядзеньня першай групы у чатыры тысячы вёдраў, дзеля другой у адну тысячу пяцьсот вёдраў і дзеля трэцяй — у семсот пяцьдзесят вёдраў.

5. Стаўкі аснаўнога патэнтнага збору за вырабку мёду, квасу, фруктавых і штучных мінэральных водаў устанаўліваюцца у чырвоным вылічэньні, па паўгодзьдзям з 1 красавіка па 30 верасьня і з 1 кастрычніка па 31 сакавіка наступнага году, у памерах: дзеля завядзеньняў першай групы—у адну тысячу сорак рублёў, дзеля другой—у трыста дзевяноста рублёў і дзеля трэцяй—у сто дзевяноста пяць рублёў.

6. Дадатковы патэнтны збор за права вырабаткі мёду, квасу, фруктавых і штучных мінэральных водаў, звыш вызначанай па аснаўному патэнту нормы (арт. 4), ўносіцца у казну наўперад у наступных памерах у чырвоным вылічэньні: па завядзеньням першай групы за тысячу вёдраў—дзьвесьце шэсьцьдзесят рублёў, па завядзеньням другай групы за пяцьсот вёдраў—сто трыццаць рублёў і па завядзеньням трэцяй групы за дзьвесьце шэсьцьдзесят вёдраў—шэсьцьдзесят пяць руб.:

Ўвага. Унесены у скарбніцу у канцы справаздачнага паўгодзьдзя дадатковы патэнтны збор, не скарыстаны у гэтым паўгодзьдзі на вырабатку паказанай у гэтым артыкулу колькасьці напіткаў, залічваецца у новым гаду пры выплаце аснаўнога патэнтнага збору па разьліку недавырабляцай колькасьці вёдраў.

7. Аснаўны і дадатковы патэнтны збор выплачваецца чырванцамі або грашовымі знакамі па курсу дня выплаты.

8. Народнаму Камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даецца права па згоднасьці з ВСНГ Саюзу ССР выдаваць інструкцыю па ужытку гэтае пастановы.

9. Тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы у асобных мясьцовасьцях устанаўляецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР і апублікоўваецца у „Известиях" ЦВК Саюзу ССР і УЦВК.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 139. Аб адмене палажэньня аб мірыцяльных камэрах на транспарту.

Дзеля з'іначаньня арт. 3 пастановы Савету Народных Камісараў аб зацьверджаньні пералікаў пастановаў зьберагаючых моц, а таксама страціўшых яе пры зьдзейсьненьні кадэксу законаў аб працы ад 3 красавіка 1923 г. (З. У. 1923 г., арт. 376), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Зацьверджанае Саветам Народных Камісараў РСФСР 4 кастрычніка 1922 г. палажэньне аб мірыцяльных камэрах на трарспарту (З. У. 1922 г., арт. 796) адмяніць.

2. Мірыцяльна-трэцейскае разбірацельства канфліктаў паміж органамі НКШЗ з аднаго боку і служачымі транспарту—з другога—робіцца у агульным парадку, згодна пад. XVI кодэксу законаў аб працы і выданых у яго разьвіцьцё пастановаў НКП.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 197 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 верасьня 1923 г.

---

## 140. Аб вынятку з звароту грашовых знакаў і абавязацельстваў кшталту 1922 г. і аб абмену іх на знакі кшталту 1923 г.

У мэтах уніфікацыі грашовага звароту і палягчэньня разьлікаў і рахунковасьці, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1 Грашовыя знакі кшт. 1922 г., а раўна бязпроцантныя абавязательствы кшт. 1922 г. вартасьцю у 10000 р. падлягаюць прыёму у ва ўсе плацяжы (без абмяжаваньня сумы) толькі да 1 кастрычніка 1923 г.

2. Паказаныя у арт. 1-ым грашовыя знакі і абавязательствы прынімаюцца скарбніцамі народн. камісарыяту грашовых справаў і дзяржаўнага банку да абмена на грашовыя знакі кшталту 1923 г. да 1-га лістападу 1923 г.

3. Народнаму камісару грашовых справаў даручаецца зрабіць загад па скарбніцам народнага камісарыяту граш. справаў і дзярж. банку і ўвайсьці у згоду з народнымі камісарыятамі, маючымі падуладныя ім скарбніцы, а таксама банкавымі, коопэратыўнымі і грамадзянскімі установамі, трэстамі і сіндыкатамі, аб спыненьні выпуску з касаў паказаных у арт. 1-ым грашовых знакаў і абавязацельстваў і аб абмене іх у касах народнага камісарыяту грашовых справаў і дзярж. банку на грашовыя знакі кшталту 1923 году.

4. Народнаму камісарыяту граш. справаў даецца права рабіць абмен паказаных у арт. 1-ым грашовых знакаў і абавязацельстваў на грашовыя знакі кшт. 1923 г. за межамі Саюзу ССР да 31 сьнежня 1923 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

22 жніўня—1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 192 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 28 верасьня 1923 г.

**141.** **Аб дастаўцы па мабілізацыі коняў, рабочых жывёлаў, павозак і упражы савецкімі, грамадзянскімі, коопэратыўнымі і прыватнымі установамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі і аб звальненьні ад гэтых даставак.**

1. Дзеля прывядзеньня чырвонай арміі у поўны баявы склад, дастаўцы па мабілізацыі падлягаюць на агульных падставах коні, іншыя рабочыя жывёлы, павозкі і упражка савецкіх, грамадзянскіх, коопэратыўных і прыватных установаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў у памеры ня звыш 25% ад агульнага ліку конаў да моманта абвесткі мабілізацыі.

2. Зусім звальняюцца ад дастаўкі па мабілізацыі коняў, іншых рабочых жывёлаў, павозак і упражы: а) замежныя пасольствы і місіі, а таксама асабы, карыстаючыяся правам экстэрыторыяльнасьці, паколькі коні і інш. служаць дзеля асабістага іх карыстаньня; б) заежныя консулы, калі гэта прадгледжана належнымі консульскімі конвэнцыямі; в) замежныя грамадзяне, калі гэта прадгледжана належнымі умовамі.

3. У асобных выпадках звальненьня (поўнае або частказю зьверх агульнай нармы) установаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў, паказаных у арт. 1, ад абавязковай дастаўкі па мабілізацыі коняў, іншых рабочых жывёлаў, павозак і упражы, устанаўляецца загадамі Рэўваенсавету Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

24 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рапублікавана у № 203 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 9 верасьня 1923 г.

---

**142.** **Аб пашырэньні льготаў у адносінах пачтовых адправак на навукова-дасьледчы інстытут У. І. Леніна.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**
Льготы у адносінах пачтовых адправак, дадзеныя пастановаю СНК РСФСР ад 26 сьнежня 1923 года (З. У. 1023 г., арт. 65) расійскай акадэміі навук,—пашырыць на навукова-дасьледчы інстытут У. І. Леніна, знаходзячыйся у Маскве.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкрэтар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

24 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рапублікавана у № 177 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 верасьня 1923 г.

---

**143.** **Аб з'іначаньні арт. 4-га палажэньня аб мытнай ахове.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**
Выкласьці арт. 4-ы палажэньня аб мытнай ахове (З. У. 1922 г. № 734) у наступнай з'іначанай рэдакцыі:

„Арт. 4. Паваротны адвоз закардон прывожваемых тавараў і рэчаў (арт. арт. 2 і 3) дапушчаецца у працягу месячнага тэрміну з дня абвесткі іх ўладару аб адмове у прапуску іх на абшар Саюзу ССР.

Як пройдзе месячны тэрмін з дня адтрыманьня гэтай абвесткі уладаром грузу, нявывезеныя тавары або рэчы, забароненыя па тарыфу да ўвозу, канфіскуюцца. Тавары і рэчы, не забароненыя да ўвозу, але ўвожваемыя без дазволу Народнага камісарыяту замежнага гандлю прадаюцца з таргоў, прычым з выручанай на таргох сумы утвымліваюцца належачыя мыты, акцызы і інш. зборы у падвойнай вялічыні, але ў агульнай складнасьці ня меньш 50% ацэначнай каштоўнасьці грузу, рэшта ж выручанай сумы варочаецца уладару грузу".

Уваті 1-ая і 2-ая да арт. 4 палажэньня застаюцца ў моцы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

31 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікована у № 181 „Известий" ЦВК Саюза ССР ад 14 ліпеня 1923 г.

---

**144.** **Аб зьніжэньні вывознай мыты на каракуль.**

Савет Народных Камісааў Саюзу ССР **пастанавіў:**
Зьнізіць вывозную мыту на каракуль, устанавіўшы яе у 10 руб. з пуду.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сєкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рапублікавана у № 192 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 28 верасьня 1923 г.

---

**145.** **Аб дачы чыгункам права браць даручэньні як на прадажу. гэтак і на пакупку грузаў, знаходзячыхся на шляхах зносінаў, за кошт перадаручаючых.**

У дапаўненьне да арт. 41 статуту чыгунак (З. У. 1922 г., арт., 445) Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**
Даць чыгункам права браць даручэньні як на прадажу, гэтак і на пакупку грузаў, знаходзячыхся на шляхах зносінаў, за кошт перадаручаючых,

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль,

Рапублікавана у № 208 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15-23 верасьня 1923 г.

## 146. Аб дачы экспортхлебу манапольнага праву вывазу закардон хлебныя і алейных прадуктаў.

Даць акцыянэрнаму таварыству дзеля прадажы хлебапрадуктаў закардон, пад скарочанаю назваю—экспортхлеб, манапольнае права вывазу за кардон усялякіх хлебных і алейных прадуктаў, як у сырым, гэтак і у апрацаваным выглядзе.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 206 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 13 верасьня 1923 г.

## 147. Аб Камісіі Заканадаўчых Намераў пры СНК Саюзу ССР.

1. Пры Савеце Народных Камісараў Саюзу ССР утвараецца Камісія Заканадаўчых Намераў, дзеючая пад непасрэдным агульным наглядам Старшыні СНК Саюзу ССР.

2. У склад Камісіі ўваходзяць:

Старшыня і чатыры сябры, пэрсональна назначаемыя СНК Саюзу.

3. Веданьню Камісіі падлягаюць:

а) папярэдні разгляд і рэдагаваньне у належнасьці з дзеючым заканадаўствам усіх проэктаў, дэкрэтаў і пастановаў заканадаўчага характару, якія ўносяцца у СНК Саюзу ССР у парадку арт. 39 аснаўнога закону Саюзу ССР, а таксама палажэньня аб СНК Саюзу ССР і канчатковае рэдагаваньне іх па зацьверджаньню СНК,

б) дача заключэньняў і справак на пытаньням дзеючага заканадаўства водлуг прапазыцыяў СНК Саюзу ССР або яго Старшыні;

в) распрацоўка проэктаў тлумачэньняў агульнасаюзнага дзеючага заканадаўства па запытаньням асобных наркаматаў Саюзу (арт. 51 і 52 аснаўнога закону Саюзу), ЦВК і Саўнаркомаў саюзных рэспублік дзеля унясеньня гэтых проэктаў на разгляд СНК Саюзу ССР;

г) сыстэматызацыя і аб'яднаньне заканадаўчых актаў і пастановаў ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР.

4. Парадак ўнясеньня пытаньняў і разгляданьня іх Камісіяй, а таксама далейшы кірунак іх устанаўляецца асобным палажэньнем, зацьверджаемым СНК Саюзу ССР.

5. Пасяджэньні Камісіі лічуцца сапраўднымі пры прысутнасьці ня меньш 3-х (трох сяброў, у тым ліку і старшні).

6. Усе пытаньні разьвязваюцца у Камісіі простай большасьцю галасоў.

7. Да разьбіраньня справы камісія выклікае для тлумачэньняў на словах з правам нарадчага голасу прадстаўнікоў агульнасаюзных і аб'яднаных наркаматаў, а таксама саюзных рэспублік і зацікаўленых установаў Саюзу. Прадстаўнікі павінны мець належны мандат, выданы за подпісам кіраўніка установы і выказываць офіцыальны погляд, дэлегаваўшай установы па разглядаемаму пытаньню.

Адсутнасьць на пасяджэньні Камісіі названых прадстаўнікоў не затрымовывае разгляданьня справы.

8. Прыняцьце мераў загаднага характару па арганізацыі працы Камісіі, разьмяркаваньне справаў дзеля дакладаў паміж сябрамі яе, разьмяркаваньне абавязкаў паміж консультантамі, запатрабаваньне неабходных ведаў па справам Камісіі робіцца адзінаасабова старшынёй Камісіі, загады якога у гэтай частцы зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх ведамстваў і установаў Саюзу.

9. Як дзеля пастаяннай, гэтак і дзеля часовай дапамогі працы Камісіі сваімі адумысловымі ведамі могуць быць прыцягваемы старшынёй Камісіі з ухваленьня Старшыні СНК Саюзу ССР сьвядомыя асобы (консультанты).

10. Пры Камісіі знаходзіцца сэкратарыят дзеля падгатоўкі справаў да разбору, вядзеньня пратаколаў і выканаваньня даручэньняў Старшыні Камісіі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

11 верасьня 1923 г.
Масква — Крэмль.

## 148. Ад парадку працы Камісіі Заканадаўчых Намераў

1. На падставе арт. 3 палажэньня аб Камісіі Заканадаўчых Намераў—Камісія прымае дзеля выпаўненьня толькі тыя справы, каторыя маюць заканадаўчы характар.

Увага: Калі зьявіцца сумленьне аб тым, як направіць справу, пытаньне разглядаецца нарадаю у складзе: старшыні Адміністратыўна-Грашовае Камісіі, старшыні камісіі Заканадаўчых Намераў і кіраўніка справамі СНК Саюзу ССР.

2. Установы і асобы, якія маюць права падаваць пытаньні на разгляданьне СНК Саюзу ССР, згодна арт. 39 Аснаўнога Закону Саюзу ССР і палажэньня аб СНК Саюзу ССР, накіроўваюць свае проэкты заканадаўчага характару праз сэкратарыят СНК на папярэдняе разгляданьне Камісіі.

3. Камісія дае ход толькі тым паданым да яе проэктам, якія адпавядаюць наступным абавязковым умовам:

Яны павінны:

а) адносіцца да компэтэнцыі СНК Саюзу ССР,

б) быць складзенымі як дэкрэт або пастанова,

в) зьмяшчаць точнае паказаньне законапалажэньняў у адмену, перайначаньне, дапаўненьне, разьвіцьцё або тлумачэньне якіх проэкт падаецца;

г) мець кароткую цадулку дзеля тлумачэньня, а гэтак сама і іншыя матар'ялы, патрэбныя дзеля абаснаваньня проэкту;

д) мець поўную дапасоўку да інтарэсаў зацікаўленых ведамстваў або матывіраваныя іх адозвы, згодна дзеючых правілаў і у пытаньнях, якія зачэпліваюць інтарэсы саюзных рэспублік, абавязкова патрэбна адозва іх прадстаўнікоў.

4. Справы, адпавядаючыя перайменаваным у арт. 3 гэтага наказу умовам, раздаюцца старшынёю камісіі дзеля папярэдняе распрацоўкі паміж яе сябрамі.

5. Кожная справа да разгляданьня яе на пасяджэньні камісіі наўперад разглядаецца сябрам-рэфэрэнтам.

6. На сябру-рэфэрэнта ускладаецца:

а) папярэдняе разгляданьне проэту;

б) абследаваньне паданага да проэкту напісанага матар'ялу;

в) склік пасьля згоды з старшынёю камісіі, калі будзе патрэба, папярэдніх нарадаў прадстаўнікоў зацікаўленых ведамстваў;

г) складаньне заключэньня;

д) радагаваньне проэкту;

е) падача у прызначаны тэрмін на пасяджэньне камісіі падрыхтованае справы; за 72 гадзіны да дню калі будзе разглядацца справа, сябра-рэфэрэнт падае справу у сэкратарыят камісіі дзеля папярэдняга азнаямленьня з ім сяброў камісіі.

7. На кожную справу, перададзеную сябру-рэфэрэнту, залежна ад вызначанага ею часу, складу і аб'ёму, даецца тэрмін, не пазьней якого яна павінна быць пададзена дзеля разьгляданьня ў камісію.

8. Пры разгляданьні на пасяджэньні камісіі справы выклікаецца дзеля абароны праэкту і паправак да яго прадстаўнік установы—ініцыатара і зацікаўленых установаў. Няяўка прадстаўнікоў не затрымоўвае разгляданьня справы.

9. Калі ня будзе памяркоўнае рэдакцыі паміж установай—ініцыатарам проэкту і камісіяй, у СНК падаюцца абедзьве рэдакцыі.

10. Сэкратар камісіі на пададзеныя да разгляданьня справы, а так сама на тыя справы, каторым прайшоў тэрмін падачы, складае абвестку пасяджэньня і за 48 гадзін паведамляе з усімі матар'яламі сябрам камісіі.

11. На разгледжаную справу камісія робіць пастанову у пратаколе.

12. Абгавораны Камісіяй проэкт з усімі папраўкамі і перайначаньнямі перадаецца дзеля канчатковага рэдагаваньня у ухвалены камісіяй тэрмін сябру-рэфэрэнту або другому сябру камісіі.

13. Пасьля канчатковага рэдагаваньня проэкту, ён йдзе на подпіс да старшыні камісіі за тым, каб падаць у СНК і адначасна даводіцца да ведаму зацікаўленых установаў.

14. Проэкт, ухвалены СНК, з усімі папраўкамі і перайначаньнямі перадаецца дзеля тэхнічнага рэдагаваньня рэдактару-кансультанту СНК і СПА; канчатковая рэдакцыя падаецца ім на зацьверджаньне старшыні камісіі, за подпісам якога проэкт падаецца на подпіс старшыні СНК і дазваляецца да публікаваньня, згодна ухваленага парадку.

Старшыня Камісіі, калі знойдзе патрэбнымі, можа пытаньне аб канчатковым тэхнічным рэдагаваньні падаць на пасяджэньне камісіі.

15. Дзеля разгляданьня экстраных проэктаў старшыня камісіі згуквае адумысловыя пасяджэньні, а калі здараюцца выпадкі, што не магчыма адкладаць,—разглядае і дае сам заключэньне саўнаркому аднаасабова і пасьля паведамляе камісію.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 версьня 1923 г.
Масква — Крэмль.

## 149. Палажэньне аб рэдактару-кансультанту СНК і СПА Саюзу ССР.

1. Рэдактар-кансультант СНК і СПА назначаецца СНК.

2. На рэдактара-кансультанта ускладваецца:

а) Канчатковае тэхнічнае рэдагаваньне пастановаў СНК, якія не праходзяць праз Камісію Заканадаўчых амераў, а гэтак сама пастановаў СПА, з мэтаю іхня Надакцыі і улагоджаньня з дзеючымі законамі;

б) рэдагаваньне пры Камісіі Заканадаўчых Намерап растановаў СНК, йдучых дзеля канчатковага рэдаа ў аньня у гэтую Камісію (наказ аб працы Камісіі За-с анадаўчых намераў арт. 14);

в) даваць спраўкі на пасядженьнях СНК і СПА па пытаньням дзеючага заканадаўства.

3. Рэдактар-кансультант мае права:

а) прысутнічаць на пасяджэньнях СНК і СПА Саюзу ССР, а гэтак сама Адміністратыўна—Грашовае Камісіі і Камісіі Заканадаўчых Намераў СНК з дарадчым голасам:

б) мець удзел з дарадчым голасам ва усіх камісіях па распрацоўцы заканадаўчых намераў;

в) вымагаць ад ведамстваў неабходных справак матар'ялаў, а калі патрэбна дык камандзіраваньня адпаведных прадстаўнікоў дзеля тлумачэньня і дзеля удзелу у радагаваньні пастановаў СНК і СПА.

г) азнаямляцца з правамі СНК і СПА і браць ад экратарыяту патрэбныя спраўкі і матарьялы.

4. У пытаньнях, уваходзячых у кампэтэнцыю Камісіі Заканадаўчых Намераў (арт. 2, п. „б"), радактар—кансультант дзейнічае як орган гэтае камісіі, спаўняе яе дырэктывы.

5. Усе ухваленыя СНК і СПА пастановы, прызначаныя да публікаваньня, йдуць на подпіс да Старшыні СНК і СПА з візаю радактара-кансультанта. Пастановы СНК, канчатковае радагаваньне якіх ускладваецца на Камісію Заканадаўчых Намераў, йдуць на подпіс да Старшыні СНК пры захаваньні правілаў арт. 14 наказу аб працы Камісіі Заканадаўчых Намераў.

6. Дзеля ажыцьцяўленьня выказанага, на Кіраўніцтва Справамі СНК ускладаецца:

а) своечасовая падача радактару-кансультанту усіх проэктаў законаў, падлеглых разгляданьню СНК і СПА, а гэтак сама пратаколаў пасяджэньняў і копіяў ухваленых пастановаў;

б) дача у загад радактара-кансультанта неабходных тэхнічніх сродкаў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 150. Аб перайначаньні арт. 2 і 3 пастановы СНК РСФСР ад 5 ліпеня 1921 г. аб парадку здачы арэнду прадпрыемстваў, пад'уладных ВСНГ.

Каб перайначыць пастанову СНК РСФСР ад 5 ліпеня 1921 г. аб парадку здачы у арэнду прадпрыемстваў падуладных ВСНГ (Зб. Уз. РСФСР 1921 г., № 53, арт. 313), СНК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зламыць арт. арт. 2 і 3 названае пастановы наступным чынам:

„**Арт. 2.** Умовы аб здачы у арэнду ня ўключаных у трэсты дзяржаўных прадпрыемстваў, прыбыткі ад якіх адносяцца на мясцовы бюджэт, заключаюцца губсаўнаргас і зацьверджваюцца губэканар".

Увага. Сьпісы прадпрыемстваў, падлеглых здачы у арэнду, складваюцца ГСНГ водлуг інструкцыі ад 25 красівіка 1922 г.

„**Арт. 3.** Умовы аб здачы у арэнду ня ўключаных у трэсты дзяржаўных прадпрыемстваў, прыбыткі ад якіх адносяцца на агульна-саюзны бюджэт або на бюджэты саюзных рэспублік, заключаюцца цэнтральнымі або краінымі органамі (Галоўным Упраўленьнем, Промбюро) ВСНГ Саюзу ССР або ВСНГ Саюзных рэспублік па належнасьці і зацьверджвацца прэзыдыумам належных ВСНГ.

Калі праз месяц ад таго дня, як адтрымана умова на зацьверджаньне ня будзе з боку прэзыдыуму належнага ВСНГ супярэчаньняў, дык умова лічыцца зацьверджанай і уваходзіць у моц з таго моманту, як яна заключана".

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Москва—Крэмль.

Распублікавана у № 220 „Известия" ЦВК Саюзу ССР ад 29 верасня 1923 г.

## 151. Аб адмене спагнаньня акцызу з сурагатаў гарбаты, кавы і цыкорыі.

Каб перайначыць дэкрэт УЦВК і СНК ад 4 траўня 1923 г. аб акцызу з гарбаты, кавы і цыкорыі (Зб. Уз. РСФСР 1922 г., № 33, арт. 390) і ў адмену арт. 2 падзелу 1 дэкрэту УЦВК і СНК РСФСР ад 19 красавіка 1923 г. аб устанаўленьні вялічыні акцызных ставак на рэчы, абкладаваемыя акцызам (Зб. Уз. РСФСР 1923 г., № 33, арт. 362) і арт. 12 дадатку да пастанановаў СПА ад 20 жніўня 1923 г. аб выражэньні пэўных (твердых) акцызных ставак у чырвоным вылічэньні („Изв." ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 24 жніўня 1923 г.) СНК **пастанаўляе:**

Адмяніць спагнаньне акцызу з усялякіх сурагатаў гарбаты, кавы і цыкорыі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасня 1923 г.
Масква—Крэмль

## 152. Аб абавязковым вядзеньні гандлёвых кнігаў гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі.

Дзелямэты, каб зрабіць парадак у гандлёвым звароту, забясьпечыць камэрцыйны крэдыт і устанавіць правідловую справаздачу гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў СНК Саюзу ССР, у адмену пастановы СНК ад 27 ліпеня 1918 г. аб гандлёвых кнігах (Зб. Уз. 1918 г., № 59, арт. 652), пастанавіў зацьвердзіць наступныя правілы аб гандлёвых кнігах:

1. Усе гандлёвыя прадпрыемствы ня ніжэй III-га разраду і ўсе прамысловыя прадпрыемствы ня ніжэй IV-га разраду паводле расьпісаньньяў разрадаў гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, зацьверджаных УЦВК і СНК РСФСР 18 студзеня 1923 г. (Зб. Уз. РСФСР 1923 г., № 5, арт. 88) павінны вясьці, захоўваючы правілы рахунковасьці, наступныя гандлевыя кнігі:

а) гандлёвыя прадпрыемствы III-га разраду—кнігу скарбніцы (запіс штодзённае выручкі і штодзёнага выдатку);

б) гандлёвыя прадпрыемствы IV-гя разраду—скарбніцоую, таварную, інвэнтарную і дзеля разьлічэньня (дзеля раьзлічэньня з разнымі асобамі і установамі, а гэтак сама з рабочымі і служачымі) кнігі;

в) прамысловыя прадпрыемствы IV і V разраду, акрамя памянёных кнігаў, яшчэ матар'яльную;

2. Гандлёвыя прадпрыемствы V разраду і прамысловыя ня ніжэй VI разраду павінны вясьці рахунковасьць па сыстэме падвойнае бухгальтэрыі.

Увага. Правілы арт. арт. 1 і 2 не звальняюць гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы ад вядзеньня больш складанае справаздачы, калі яна устаноўлена дзеля іх адумысловымі палажэньнямі і правіламі.

3. Гандлёвыя кнігі вядуцца залежна ад жаданьня уладара прадпрыемства на адной з жывых моваў. Карыстаньне мёртвымі языкамі і шыфрам забараняецца.

4. Гандлёвыя кнігі павінны вясьціся без падчысткаў, вымарваньняў або паправак, а гэтак сама баз прыпіскаў над і пад радкамі і паміж артыкуламі. Калі трэба будзе справіць, дык апіскі або памылкі, словы і лічбы, якія трэба справіць, закасоўваюцца тонкаю рыскаю, над якою робіцца абмова, якая напраўляе апіску або абмылку і падпісваецца абмаўляючымі яе асобамі. Калі апіска або абмылка будзе угледжана ня зразу і за гэтым ня можа быць абмоўлена свaечасна гэтак, як сказана вышэй, дык аб гэткай апісцы або абмылцы у той жа дзень, калі яна будзе знойдзена, запісваецца у кнізе асобны артыкул.

5. Гандлёвыя кнігі павінны быць у вокладцы, а старонкі іх пранумэраваны, з паказаньнем у канцы кнігі, за подпісам уладара або упаўнаважанае ім на тое асобы, агульнага ліку старонак у кнізе.

6. Гандлёвыя кнігі прадпрыемстваў, якія павінны вясьці, згодна арт. 2-га гэтае пастановы, рахунковасьць на сыстэме падвойнае бухгальтэрыі рэгіструюцца так, як вызначана інструкцыяю, выпрацаванаю КЗГ (КВТ) згодна з НКГС і ВСНГ і зацьверджае СПА.

7. Гандлёвыя кнігі (з моманту апошняга запісу у яе), апраўдваючыя дакумэнты, а гэтак сама копіі выходзячай і аўтэнтная (подлінная) ўваходзячая карэспандэнцыя

наконт справаў, павінны хавацца у прадпрыемствах у працягу 3-х гадоў.

8. Апэрацыйны тэрмін не павіненбыць звыш аднаго году пазьней 3-х месяцаў пасьля закончаньня апэрацыйнага тэрміну, калі ня ўстаноўлена іншых больш кароткіх тэрмінаў, усе гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы, памянёныя у арт. 2-м павінны складаваць справаздачу за год, маючую у сабе падрабязны баланс, у якім павінны быць выведзены прыбыткі і страты.

Справаздача падпісваецца тым, хто складаў яе, і акрамя таго, асобамі, якія стаяць на чале прадпрыемства, як: аднаасабова загадваючымі або ўладарамі, усімі поўнымі таварыствамі, кіраўніцтвамі акцыянэрнэрных таварыстваў з абмяжованай адпаведнасьцю і г. д.

9. Калі загінуць або прападуць гандлёвыя кнігі, апраўдваючыя дакумэнты і карэспадэнцыя аб справах, уладар прадпрыемства павінен у два тыдні паведаміць аб гэтым дзеля ведаму належную губэконар. Апошняя упэўніўшыся у правідловасьці заявы выдае у тым пасьведчаньне.

10. Гандлёвыя кнігі, якія вяліся з парушэньнем вышэйзложанных правілаў, ня прымаюцца як довад у карысьць іх уладара. Парушэньні гэтых правілаў караюцца карным парадкам.

11. Фінансавым інспэктарам, робячым рэвізыю прадпрыемстваў, адносна правідловасьці выплаты прамысловага падатку і гэрбавага збору, даецца права правяраць гэтак сама правідловасць вядзеньня гандлёвых кнігаў, згодна гэтае пастановы, пры чым пратаколы аб знойдзеных неправідловасьцях перасылаюцца у народны суд дзеля перасьледаваньня судом.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 153. Аб спагнаньні плацяжоў па некаторым катэгорыя дзяржаўных прыбыткаў у бясспрэчным парадку.

Савет Народных Камісараў **пастанаўляе:**

Арт. 1. Усякага роду мыты і зборы якія носяць падатковы характар, а таксама плацяжы па акладному дзяржаўнаму страхаваньню павінны спаганяцца па правілам, устаноўленым палажэньням аб спагнаньні падаткаў; збораў (З. У. РСФСР 1922 г., № 44, арт. 550), калі дзеля спагнаньня іх не устаноўлена законамі адумысловых правілаў.

Арт. 2. Устаноўлены палажэньнем аб спагнаньні падаткаў і збораў бясспрэчны парадак спагнаньня пашыраецца на спагнаньне арэнднай платы і пені водлуг умоваў аб аддачы у карыстаньне дзяржаўных зямельных маемасьцяў у тых выпадках, калі належачая да ўнясеньня плата ня будзе ўнесена у працягу аднаго месяцу пасьля устаноўленага умовай тэрміну.

Арт. 3. Установы, якія здаюць дзярж. зямельн. маемасьці у арэнду, павінны дастаўляць копіі умоваў, памянёных у арт. 2; у мясцовы адзел грашовых справаў і паведамляць апошнему аб усіх выпадках прасочкрі плацяжоў водлуг умоваў больш 1 месяцу, дзеля залічэньня нявыплачанай сумы у нядоімку і спагнаньня яе загадам аддзелу грашовых справаў.

Арт. 4. Скаргі на неправідловыя спагнаньні арэндных плацяжоў і пені па арэндным умовам (арт. 2) разглядаюцца прэзыдыумамі губвыкан. камітэтаў. Абжалаваньне не затрымовывае спагнаньня.

Арт. 5. Аб усіх плацяжах, належачых у карысьць дзяржавы па арт. 1, а роўна у паварот ссудаў (апрача банкаўскіх і %% па ім дзеля выплаты накладзеных у ўстаноўленым парадку штрафаў, падлягаючыя установы паведамляюць аддзелам грашовых справаў дзеля нагляду за паступленьнем гэтых сумаў і дзеля іх спагнаньня па прасрочцы больш 1 месяцу, у бясспрэчным парадку.

Арт. 6. Губэр. аддзелы грашовых справаў павінны мець нагляд за сваечасовым паступленьнем належачых у прыбытак дзяржаўнае скарбніцы згодна канчаткова зацьверджаных справаздачаў і балансаў, прыбыткаў ад дзярж. прадпрыемстваў у парадку дэкрэту аб трэстах ад 10 красавіка 1923 г. (З. У. РСФСР, № 29, арт. 336), а роўна прыбыткаў падлягаючых занясеньню у прыбытак казны дзярж. органамі, якія прымаюць удзел у зьмешаных таварыствах.

У выпадку непаступленьня прадгледжаных у гэтым артыкулу сумаў губэрск. аддзелы грашовых справаў спаганяюць іх у бясспрэчным парадку, устаноўленым палажэньнем аб спагнаньні падаткаў і збораў.

Арт. 7. Няпрыняцьце належных мераў па спагнаньню дзяржаўных прыбыткаў і збораў, а роўна непаведамленьне органамі грашовых справаў неабходных дзеля таго вестак, караецца водлуг належных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік.

Арт. 8. Народнаму Камісарыяту Грашовых Справаў даручаецца, па згодзе з зацікаўленымі ведамствамі, выпрацаваць інструкцыю па ужытку гэтае пастановы і ўнясьці яе на зацьверджаньне СНК Саюзу ССР у месячны тэрмін.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

25 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 154. Аб з'іначаньні арт. 20 дэкрэту аб мясцовых трэстах і дадатку да яе увагі.

Дзеля з'іначаньня дэкрэту аб дзяржаўных прамысловых прадпрыемствах, якія праводзяць чыннасьць на пачатках камэрцыйнага разьліку (трэстах), знаходзячыхся ў упраўленьні мясцовых органаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР, № 1, арт. 29),—Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Выкласьці арт. 20 названага дэкрэту і увагі да яе у наступнай рэдакцыі:

20. Увесь прыбытак трэсту ўносіцца у агульныя рэсурсы мясцовага бюджэту губэрні, краіны або аўтаномнай рэспублікі, за выключэньнем:

а) адлічэньня ня меньш 20% у рэзэрвовы капітал

трэсту, пакуль ён не дасягне паловы капіталу па статуту;

б) адлічэньняў у прамысловы фонд;

в) адлічэньняў на утварэньне адумысловага фонду дзеля паляпшэньня быту рабочых;

г) адлічэньняў на выдачу танцьемаў сябрам кіраўніцтва і наградных рабочым.

Вялічыня адлічэньняў у рэзэрвовы капітал і на выдачу танцьемаў і наградных (п. „а“ і „г“) вызначаецца ГСНГ, КСНГ, СНГ аўтаномнай рэспублікі і зацьверджаецца губэкнар (кр. Экнар, Экнар аўтаномнай рэспублікі).

Вялічыня адлічэньняў у адумысловы фонд дзеля паляпшэньня быту рабочых вызначаецца парадкам, устаноўленым увагаю 1 да арт. 19.

Увага. Усе выдаткі па паляпшэньню быту рабочых могуць рабіцца трэстам толькі тады, калі у яго ёсьць адумысловы фонд дзеля паляпшэньня быту рабочых і толькі за кошт сумаў гэтага фонду.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраўнік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 155. Аб дапаўненьні нармальнага статуту таварыстваў сельска—гаспадарчага крэдыту.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дапоўніць нармальны статут таварыстваў сельскагаспадарчага крэдыту (З. У. РСФСР 1923 г., арт. 234, дадатак) наступнымі пастановамі:

§ $41^{1}$. Уклады натурай варочаюцца залежна ад таварыства (§ 65, п. „г“) тэй жа натурой аба грашовымі знакамі водлуг каштоўнасьці натуры у момант узвароту.

Парадак ацэнкі ўкладаў устанаўляецца на падставе інструкцыі дзяржаўнага банку.

§ $41^{2}$. Ўкладчыку даецца права асобным надпісам на ўкладным або складачным пасьведчаньні паказываць асобаў, якім павінен быць выдан уклад у выпадку яго сьмерці, з захаваньнем устаноўленных агульнымі законамі правілаў у адносінах вялічыні пераходзячай па спадчыне маемасьці і кола асобаў, дапушчаемых да насьледаваньня.

§ $41^{3}$. Укладныя і складачныя пасьведчаньні, даручэньні на адтрыманьне ўкладу або яго часткі, усякага роду заявы ўкладчыкаў па справам іх укладаў, адказы на іх і наогул дзелаводзтва па ўкладам звальняюцца ад гэрбавага збору.

Увага 2-ая да § 66. Пры утварэньні таварыства агульваму сходу даецца права выбраць трох асобаў дзеля часовага выканапьня абавязкаў сяброў кіраўніцтва. Паўнаважнасьці іх маюць моц да абраньня пастаянага кіраўніцтва, але не далей шасьці месяцаў з дня абраньня.

II. Зрабіць загаловак да падразьдзяленьню Б разьдзелу III замест „Б“ „Прыем укладаў и Б. Уклады“.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраўнік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

25 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 156. Аб вытворчасьці назначанага на 1-е студзеня 1924 г. ціражу выйграшаў дзяржаўнага 6% выйграшнага займу у 2 тэрміны.

Дзеля з'інačаньня дэкрэту 31 кастрычніка 1922 г. аб выпуску дзяржаўнага 6% выйграшнага займу (З. У. РСФСР 1922 г., арт. 887) Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Назначаны на 1-е студзеня 1924 г. ціраж выйграшаў зрабіць у два тэрміны 20—31 кастрычніка і 20—30 сьнежня 1923 году, разьмяркаваўшы паміж імі выйгрышы згодна наступнаму раскладу:

| Вялічыня выйгрышу. | 20—31 кастрычника. | | 20—31 сьнежня. | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць. | Агульная сума. | Колькасьць. | Агульная сума. |
| 100.000 р.з. | — | — | 1 | 100.000 р.з. |
| 50.000 „ | 1 | 50.000 р.з. | — | — |
| 25.000 „ | 1 | 25.000 „ | 1 | 25.000 „ |
| 10.000 „ | 3 | 30.000 „ | 2 | 20.000 „ |
| 5.000 „ | 5 | 25.000 „ | 5 | 25.000 „ |
| 1.000 „ | 25 | 25.000 „ | 25 | 25.000 „ |
| 500 „ | 50 | 25.000 „ | 50 | 25.000 „ |
| 100 „ | 500 | 50.000 „ | 500 | 50.000 „ |
| 50 „ | 1.000 | 50.000 „ | 1.000 | 50.000 „ |
| 20 „ | 5.000 | 100.000 „ | 5.000 | 100.000 „ |
| Усяго . . | 6.585 | 380.000 р.з. | 6.585 | 420.000 з.р. |

2. Канчатковым тэрмінам прадяўленьня заяваў на адтрыманьне выйграшаў па ціражам 20 кастрычніку і 20 сьнежня 1923 г. лічыць 31 сьнежня 1925 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў**
*Кіраўнік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

25 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 157. Аб з'іначаньні арт. 2-га пастановы СНК ад 24-га ліпеня.

Дзеля з'іначаньпя арт. 2-га пастановы СНК от 24-га ліпеня 1923 г. аб абавязковым напісаньні вэксаляў на вэксалёвай паперы (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР, № 3, арт. 70), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Цана вэксалёвай паперы паказываецца у чырвоным

вылічэньні. Вэксалёвая папера аплачваецца або чырвонцамі, у банкавых бялетах, па іх намінальнай цане або савецкімі грашовымі знакамі па курсу чырвонца.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

25 верасьня 1923 г.
Масква — Крэмль.

## 158. Аб дапаўненьні пастановы СНК Саюзу ССР ад 21 жніўня 1923 г.

Каб дапоўніць пастанову сваю ад 21 жніўня 1923 г. аб утварэньні галоўнага канцэсыйнага камітэту пры СНК Саюзу ССР („Изв." ЦВК Саюзу ССР і УЦВК— ад 1 верасьня 1923 г.) СНК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Статуты таварыстваў і аб'яднаньняў, якія арганізуюцца дзеля эксплёатацыі лініі паветраных зносінаў або іншых відаў ужытку грамадзянскае авіацыі і паветранага плаваньня падлягаюць зацьверджаньню СНК Саюзу ССР як канцэсіі, пасьля падачы галоўнага канцэсыйнага камітэту пры СНК Саюзу ССР, ССР, у які яны падаюцца праз савет па грамадзянскай авіацыі пры галоўным паветраным флёце.

2. Дзеючыя цяпер таварыствы паветраных зносінаў, зацьверджаныя ня гэтак, як устаноўлена арт. 1 гэтае пастановы, павінны падаць свае статуты дзеля належных адметак у галоўны канцэсыйны камітэт праз савет па грамадзянскай авіацыі пры галоўпавфлёце, не пазьней як 1-га кастрычніка 1923 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

25 верасьня 1923 г.
Масква — Крэмль.

## 159. Аб устанаўленьні транспартных тарыфаў у чырвоным вылічэньні.

Каб з'інацыць арт. 1 і 4 пастановы саўнаркому ад 13-га сакавіка 1923 г. аб устанаўленьні і перайначаньні транспартных тарыфаў (Зб. Уз. РСФСР 1923 г., № 23, арт. 263) СНК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дзеючыя цяпер аснаўныя пэўныя стаўкі плату за правоз і збораў за паслугі, робленыя чыгункамі, лічыць выказанымі у чырвонным вылічэньні.

2. Даручыць НКШЗ з'арганізаваць штодзённае паведамленьне станцыям чыгунак курсу чырвонца дзеля ужываньня яго пры вылічэньні платаў за правоз і іншых збораў у грашовых знаках.

3. Памянёныя мерапрыемствы здзейсьніць з 1-га кастрычніка 1923 г.

4. Дазволіць мясцовым органам рачнога і марскога транспарту непасрэдна устанавіць, як перайсьці на чырвонае вылічэньне.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

25 верасьня 1923 г.
Масква — Крэмль.

## 160. Аб тым, як разьвязваць пытаньні зьвязаныя з зборам адзінага с.-г. падатку.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанавіў:

Дзеля папярэдняе распрацоўкі і падачы у СНК і СПА пытаньняў аб вялічыні натуральнае і грашовае часьцінаў сельска-гаспадарчага падатку, эквіваленту грашовае аплаты жытняе і пшанічнае адзінкі, эквіваленту адмены адных прадуктаў другімі і разрадаў урад-жайнасьці па губэрнях, а гэтак сама дзеля разглядаяньня асобных ходайніцтв аб пытаньнях на конт адзінага с.-г. падатку, абуджаемых саўнаркомамі і народнымі камісарыятамі аўтаномных рэспублік, краіннымі і губ. выканаўчымі камітэтамі і асобнымі раёнамі і паветамі, утварыць пры саўнаркомах саюзных рэспублік камісіі у складзе: кіраўнічага ЦСУ (старшыня) і адпаведных прадстаўнікоў НКХ, НКГС, НКЗ.

Пастановы гэтых камісіяў у падлеглых выпадках падаюцца на разгляданьне саўнаркомаў саюзных рэспублік і з іх заключэньнямі йдуць на канчатковае зацьверджаньне Саўнаркому і СПА Саюзу ССР праз утвораную ім камісію у складзе прадстаўнікоў НКГС, НКХ, і ЦСУ Саюзу ССР, з удзелам прадстаўнікоў нарады наркомаў земляробства, уваходзячых у склад Саюзу Рэспублік.

Пастановы камісіяў, арганізоўваемых саўнаркомамі саюзных рэспублік, аб адхіленьні асобных хадайніцтв, лічацца канчатковымі і на зацьверджаньні Саюзу ССР не падаюцца.

Пастановы Камісіі Саюзу ССР на разгледжаных хадайніцтвах, калі яны аднагалосна зроблены і зацьверджаны належнымі наркомамі, пердаюцца з візаю наркомаў на подпіс намесьніка старшыні СПА або намесьніка старшыні СНК і толькі калі ня будзе згоды паміж наркомамі, перадаюцца на разгляданьне СПА або СНК.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Зам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 161. Аб памерах натуральнай і грашовай часткаў адзінага с.-г. падатку дзеля Украінскай Савецкай Социалістычнай Рэспублікі.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Частку адзінага сельска-гаспадарчага падатку, якую належыць спагнаць натурай дзеля УССР вызначыць у памеры ня звыш 80 міл. пуд.

Частку падатку, якую належыць спагнаць натурай па асобных губэрнях УССР, устанавіць Саўнаркому УССР, выходзючы з вышэйпаказанай агульнай сумы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*За Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

2 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 162. Аб устанаўленьні разрадаў прадукцыі.

На падставе арт. 14 дэкрэту УЦВК ад 19-га траўня 1923 г. аб адзіным сельск.-гаспад. падатку, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Устанавіць дзеля абкладаньня земляробні гаспадарак адзіным сельск.-гаспад. падаткам наступныя разрады прадукцыі:

| | | |
|---|---|---|
| Па Валынскай | 8 | разрад. |
| „ Данецкай | 5 | „ |
| „ Кацерынаслаўскай | 6 | „ |
| „ Кіеўскай | 9 | „ |
| „ Адэскай | 5 | „ |
| „ Падольскай | 9 | „ |
| „ Палтаўскай | 9 | „ |
| „ Харкаўскай | 9 | „ |
| „ Чарнігаўскай | 6 | „ |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Горбуноў.**

*За Сэкратара СНК Саюзу ССР* **Л. Флаксэрман.**

2 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 174 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 4 верасьня 1923 г.

## 163. Аб устанаўленьні разрадаў ураджайнасьці.

На падставе арт. 14 дэкрэту УЦВК ад 10 траўня 1923 году аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Устанавіць дзеля абкладаньня земляробных гаспадарак адзіным сельпадаткам наступныя разрады ураджайнасьці:

| | | |
|---|---|---|
| по Данской краіне | 3 | разряд, |
| „ Стаўропальскай губ. | 4 | „ |
| „ Кубана-Чарнаморскай губ. | 7 | „ |
| „ Адыгэйскай аўт. краіп. | 6 | „ |
| „ Церскай губэрні | 5 | „ |

По Кабардына-Балкарскай, Карачаева-Чаркескай. Чачэнскай аўтаномнай краіне, Горскай рэспубліцы і Грозненскай губэрні 6-ы разрад, але даецца краявой эканамічнай парадзе, па згодзе з прадстаўнікамі пералічаных рэспублік і краінаў, устанавіць асобныя разрады дзеля кожнай краіны і рэспублікі з тым, каб агульная сума падатку ня была з'іначана.

| | | |
|---|---|---|
| Па Дагестанскай рэспубліцы | 5 | разрад. |
| „ Царыцынскаё губ. | 1 | „ |
| „ Астраханскай „ | 1 | „ |
| „ Аўт. Калмыцкай кр. | 1 | „ |
| „ Працкамуне кр. немцаў Паволжжа. | 1 | „ |
| „ Крымскай ССР | 3 | „ |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

2 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 174 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 4 жніуня 1923 г.

## 164. Аб вялічыні натуральнае і грашовае часткі адзінага сельска-гаспадарчага падатку.

На падставе арт. 5 дэкрэту УЦВК ад 10 травеня 1923 г. аб адзіным с.-г. падатку, Савет Народных Камісараў **пастанаўляе:**

Вызначыць частку адзінаго сел. гасп. падатку дазволеную плацельшчыкам здаваць натураю:

| | |
|---|---|
| па Данской краіне | 50% |
| „ Стаўропальской губ. | 50% |
| „ Кубано-Чэрнаморскуй губ. | 40% |
| „ Адыгэйскай аўт краіне | 40% |
| „ Терскай губ. | 50% |
| „ Царыцынскай губ. | 50% |
| „ Працоўнай камуне Немцаў Паволжа | 50% |
| „ Крымскай ССР | 30% |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Флаксэрман.**

2 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 165. Аб устанаўленьні разрадаў ураджайнасьці.

На падставе арт. 14-га дэкрэту УЦВК і СНК ад 10 траўня 1923 г. аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку,—Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Устанавіць дзеля абкладаньня земляробны гаспадарак адзіным сельск. гаспадарч. падаткам наступныя разрады ураджайнасьці:

| | | |
|---|---|---|
| Па Самарскай губэрні | 3 | разрад. |
| „ Саратаўскай „ | 3 | „ |
| „ Сімбірскай „ | 3 | „ |
| „ Тульскай „ | 7 | „ |
| „ Арлоўскай „ | 7 | „ |
| „ Курскай „ | 8 | „ |
| „ Пензенскай „ | 5 | „ |
| „ Варонежскай „ | 4 | „ |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Флаксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 166. Аб дачы скідні з сумы с.-г. падатку плацельшчыкам некаторых райёнаў.

На падставе арт. 17 дэкрэту УЦВК і СНК ад 10 траўня 1923 г. аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку (зб. Уз. 1923 г., арт. 451), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Даць у 1923—24 падатковым годзе скідку у ліку 20% з вызначанае сумы падатку плацельшчыка у Вот-

скай краіне, Марыйскай краіне, Чувашскай краіне, у Татарскай савецкай сацыялістычнай рэспубліцы, Башкірскай савецкай сацыялістычнай рэспубліце, Вяцкай губэрніі і губэрнях Заходняе часткі Кіргіскае ССР— Арэнбурскае, Уральскае, Кустанайскае, Актюбінскае і Букееўскае.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 196 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 верасьня 1923 г.

---

## 167. Аб памеру натуральнай і грашовай часткаў адзінага сельск.-гаспад. падатку дзеля жывёлаводнічага насельніцтва Кіргіскай ССР.

На падставе арт. 6-га дэкрэту УЦВК і СНК ад 10 траўня 1923 году аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку у раёнах жывёлаводчаскіх гаспадарак (З. У. 1923 г., арт. 452) і ў належнаесьці з пастановаю сваёй ад 7 жніўня 1924 г. аб парадку разьвязваньня пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем адзінага сел-гасп. падатку („Изв“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 9 жніўня 1923 г.), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Устанавіць дзеля насельніцтва качавога (вандроўнага) і паўвандроўнага, якое займаецца жывёлаводцтвам у Кіргіскай соцыалістычнай савецкай рэспубліцы процант выплаты належачага з яго жывёлаводчаскага сельска-гаспадарчага падатку грашыма і натурай у наступных памерах:

| Губэрні і паветы: | Процант выплаты грашыма. | Процант выплаты натурай. |
|---|---|---|
| Арэнбурская губэрня . . . . . . | 60 | 40 |
| Уральская . . . . . . | 70 | 30 |
| Сэміпалацінская „ . . . . . . | 60 | 40 |
| Акцюбінская „ . . . . . | 50 | 50 |
| Акмолінская „ . . . . . | 40 | 60 |
| Турайскі павет . . . . . . . . | 100 | — |
| Адаеускі . . . . . . . . | 100 | — |
| Букееуская губэрня . . . . . | 100 | — |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 196 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 жніуня 1923 г.

---

## 168. Аб вялічыні натуральнае і грашовае часьцін адзінага с.—г. падатку.

На падставе арт. 5 дэкрету УЦВК і СНК ад 10 траўня 1923 г. аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку (Зб. Уз. 1913 г., арт. 451) і адпаведна пастановам сваім ад 7 жніўня 1923 г. аб тым, як разьвязваць пытаньні, зьвязаныя з зборам адзінага с.-г. падатку („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 9 жніўня 1923 г.) Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Вызначыць частку адзінаго с.-г. падатку, дазволеную аваць з натураю, у ліку:

| | |
|---|---|
| па Вотскай краіне . . . . . . | 50% |
| „ Марыйск. „ . . . . . . | 50% |
| „ Чувашск. „ . . . . . . | 50% |
| „ Вяцкай губ. . . . . . . | 50% |
| „ Гомельск. „ . . . . . . | 50% |
| „ Татарскай ССР. . . . . . | 50% |
| „ Актюбінскай губ. . . . . | 50% |
| „ Уральскай „ . . . . . | 50% |
| „ Кустанайск. „ . . . . . | 50% |
| „ Арэнбурскай „ . . . . | 50% |
| „ Смаленскай губ. . . . . | 50% |
| „ Башкірыі. . . . . . . . | 60% |
| „ Беларускай ССР. . . . . | 40% |
| „ Алтайскай губ. . . . . . | 60% |
| „ Омскай „ . . . . . . | 60% |
| „ Енісейскай „ . . . . . . | 60% |
| „ Нованікольск. губ. . . . . | 60% |
| „ Томскай губ. . . . . . . | 60% |
| „ Акмолінскай губ. . . . . | 60% |
| „ Семіпалацінск. „ . . . . . | 60% |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 196 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 верасьня 1923 г.

---

## 169. Аб устанаўленьні часткі с.-г. падатку, дазволеную да здачы натурай па Разанскай губэрні.

На падставе арт. 5-га дэкрэту УЦВК і СНК ад 10 траўня 1923 г. аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку (З. У. 1923 г., арт. 451) і ў належнасьці з пастановай сваёй ад 7 жніўня 1923 г. аб парадку разьвязваньня пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем адзінага сельска гаспадарчага падатку („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 9 жніўня 1923 г.),—Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Вызначыць частку адзінага сельска-гаспадарчага падатку, дазволенну да здачы натурай:

Па Рязанскай губэрні у памеры —50%.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І Рыкау.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 196 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 верасьня 1923 г.

## 170. Назначэньні.

1.

**Аб зацьверджаньні складу калегіі Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня Саюзу ССР.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зацьвердзіць калегію А ДПУ Саюзу ССР у наступным складзе:

т. Дзержынскі Ф. Э.—старшыня
т. Менжынскі В. Р.—1-ый намесьнік
т. Ягода Г. Г. —2-і „
т. Манцоў В. Н.—сябра калегіі
т. Бокі Г. У.— „ „
т. Петерс Я. Х.— „ „
т Месінг С. А.— „ „
т. Валіцкі В. А.— „ „
т. Магілеўскі С. Б.—сябра калегіі.

*Нам старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Союзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

2.

**Аб зацьверджаньні складу калегіі НКПрацы Саюзу ССР.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зацьвердзіць пры Наркоме т. Шмідту калегію Наркомпрацы Саюзу ССР у наступным складзе:

т. Бахутаў А. М.
т. Гіндзін Я. І.
т. Ноа Ф. Г.
т. Немчанка Л. І.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

# Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**171. Аб узвароце мытных збораў пры вывазе за-кардон тэкстыльных і гумаляставых вырабаў.**

На падставе пастановы ЎЦВК і СНК ад 11-га студзеня 1923 г. аб заходах дапамогі экспорту, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў**:

1. Пры вывазе за-кардон расейскіх тэкстыльных і гумаляставых вырабаў адбываецца ўзварот мытных збораў якія плоцяцца за ужытыя для вытварэньня гэтых вырабаў матар'ялы і машыны.

2. Пералічэньне тэкстыльных і гумаляставых вырабаў, пры вывазе якіх адбываецца ўзварот мытных збораў і стаўкі мытаў, якія зьвяртаюцца, вызначаецца водлуг даложанай да гэтага табэлі.

3. Паказаны ў арт. 1 узварот мытных збораў адбываецца шляхам выдачы асобных квіткоў (цэтлікаў), якія прымаюцца ў залік заплаты мытных збораў:

1) Цэтлікі, якія выдаюцца пры вывазу хлопчата-папяровых, ільняных, калапнёвых і джутавых вырабаў (арт. арт. 1—3 табэлю),—для заплаты за прывезяныя з-за кардону тавары, паказаныя ў арт. 105 (п. п. 2—4), 107 (п. 1), 108 (п. 1), 124 (п. 2), 125, 127, 129, 130, 134, 135, 167 і 179 мытнага тарыфу, па эўрапэйскаму гандлю, зацьверджанага ЎЦВК'ам 9 сакавіка 1922 г.;

2) цэтлікі, якія выдаюцца пры вывазу вырабаў з шэрсьці і паўшэрсьці (арт. 4 табэлю)—дкя заплаты мытных збораў за прывезяныя з-за кардону тавары, паказаныя ў арт. арт. 105 (п. п. 2—4), 107 (п. 1), 108 (п. 1), 124 (п. 2), 125, 127, 129, 130, 134, 135, 167 і 181 памянёнага вышэй тарыфу;

3) цэтлікі, якія выдаюцца пры вывазу вырабаў з шоўку і паўшоўку (арт. (арт. 5 табэтю),—для заплаты мытных збораў за прывезяныя з-за кардону тавары, паказаныя ў арт. арт. 105 (п. 2—4), 107 (п. 1), 108 (п. 1), 124 (п. 2), 126, 127, 129, 130, 134, 135, 167 і 170 памянёнага вышэй тарыфу; і

4) цэтлікі, якія выдаюцца пры вывазу гумаляставых вырабаў (арт. 6 табэлю),—для заплаты мытных збораў за прывезяныя з-за кардону тавары, паказаныя ў арт. арт. 88 (п. 1), 91 (п. 1), 94 (п. 2), 117 (п. 1), 131, 132 (п. 2), 167, 187, 188, 189, 198, 199 і 105 (п. 1 літ. б) памянёнага вышэй тарыфу.

Вываз за кардон тэкстыльных і гумаляставых вырабаў з паказанай у арт. 1 льготай (прывілеям) дазваляецца праз усе мытніцы, праз якія дазваляецца вываз тавараў з звальненьнем ад акцызу.

5) Тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы вызначаецца народным камісарыятам грашовых справаў [1]).

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Нам. Сэкратара СПА Саюзу ССР* **С. Фляксэрман**

9 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 183 і 190 „Известия" ЦВК Саюзу ССР ад 17 жніўня 1923 г.

### Табель узвароту мытау пры вывазу за кардон тэкстыльных і гумаляставых вырабау.

(У залатым вылічэньні).

| №№ | Найменьне вырабау, пры вывазу якіх закардон мыты варочаюцца. | Стаука варочаемых мытау з пуду. Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|
| | **1. Хлапкова-папяровыя вырабы, нават з далучэньнем іншых валакністых матар'ялаў.** | | |
| 1. | Пража суровая і беленая . . . . . . | 5 | 40 |
| 2. | Пража фарбаваная і набіваная, акрамя афарбаванае у адрыанопальскі чырвоны колер. . . . . . . . . . . . . | 5 | 95 |
| 3. | Пража, афарбаваная у адрыанопальскі чырвоны колер . . . . . . . . . | 7 | 55 |
| 4. | Ніткі, суканыя у дзьве і больш нітак, суравыя і беленыя, не на дзеравяных шпульках: | | |

[1]) Інструкцыя НКГС аб ужытку гэтае пастановы агалошна у Весьніку фінансау, 1923 г., № 35, дадатак 2 гі, стар. 47.

| №№ | Найменьне вырабау, п'и выразу якіх закардон мыты варочаюцца. | Стаука зарсчаемых мытау з пуду. Руб. | Коп. |
|---|---|---|---|
| | а) зробленыя з пражы ніжэй № 50 (па ангельскай памецы) . . . . . | 5 | 95 |
| | б) зробленыя з пражы № 50 і вышэй (па ангельскай памецы) . . . | 6 | 90 |
| 5. | Ніткі, суканыя у дзьве і больш нітак, фарбаваныя, не на дзеравяных шпульках: | | |
| | а) зробленыя з пражы ніжэй № 50 (па ангельскай памецы) . . . | 7 | 50 |
| | б) зробленыя з пражы № 50 і вышэй (па ангельскай памецы) . . . | 8 | 45 |
| 6. | Ніткі, суканыя у дзьве і больш нітак, суравыя і беленыя, на не дзеравяных шпульках: | | |
| | а) зробленыя з пражы ніжэй № 50 (па ангельскай памецы) . . . | 3 | 80 |
| | б) зробленыя з пражы № 50 і вышэй (по ангельскай памецы) . . . | 4 | 30 |
| 7. | Ніткі суканыя у дзьве і больш нітак фарбаваныя, на дзеравяных шпульках: | | |
| | а) зробленыя з пражы ніжэй № 50 (па ангельскай памецы) . . . | 4 | 60 |
| | б) зробленыя з пражы № 50 і вышэй: (па ангельскай памецы) . . . | 5 | 10 |
| 8. | Тканіны і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі суравыя і беленыя. | 5 | 65 |
| 9. | Тканіны і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльё і вопраткі фарбаваныя і набіваныя, а гэтак сама стракатыя тканіны, за выключэньнем афарбованых у адрыанопальскі чырвоны колер . . . | 7 | 85 |
| 10. | Тканіны і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі афарбованыя у адрыанопальскі чырвоны колер . . . . | 8 | 45 |

**2. Вырабы з лёну і пянькі, навэт з далучэньнем іншых валакністых матар'ялаў:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Пража і ніткі суравыя, а гэтак сама шнуркі вагою меньш чым адзін лот у пяці сажнях даўжынёю . . . | — | 45 |
| 2. | Пража і ніткі беленыя . . . . . . . | — | 60 |
| 3. | Пража і ніткі фарбованыя . . . . . | 1 | 85 |
| 4. | Тканіны і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі суравыя . . . . | — | 50 |
| 6. | Тканіны і вязаныя матар'ялы, вырабы, | | |

**3. Джутовыя вырабы.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Пража і ніткі . . . . . . . . . . | 1 | 90 |
| 2. | Тканіны і мяшкі . . . . . . . | 2 | 25 |

**4. Вырабы з шэрсьці.**

| №№ | Найменьне вырабау, при вывазу якіх закардон мыты варочаюцца. | Стаука зарсчаемых мытау з пуду. Руб. | Коп. |
|---|---|---|---|
| 1. | Тканіны з шэрсьці і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі, вагою у 2-х квадр. аршынах ня звыш. 1 хунта . . . . . . . . . . . . | 6 | 10 |
| 2. | Тканіны з шэрсьці і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі, вагою у 2-х кв. арш. звыш 1 хунта, але ня звыш 1 хунта 25 залатнікаў . . . . | 5 | 75 |
| 3. | З шэрсьці тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі, вагою у 2-х кв. арш. звыш. 1 хунта 25 зал. | 3 | 80 |
| 4. | З паўшэрсьці тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі, вагою у 2-х кв. арш. ня звыш 1 хун. | 6 | 80 |
| 5. | З паўшэрсьці тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльяё і вопраткі, вагою у 2-х кв. арш. звыш. 1 хунта, але ня звыш 1 хунта 25 залатнікаў . | 6 | 55 |

**5. Вырабы з шоўку.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Шаўковая трошчаная пража . . . . | 65 | 50 |
| 2. | Шаўковыя тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі . . . | 90 | 75 |
| | Паўшоўковыя тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бяльлё і вопраткі . . | 32 | 70 |

**6. Вырабы з гумалясту.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Гумаляставае абуцьцё (галошы, гамашы і інш.) . . . . . . . . . . . | 2 | 05 |
| 2. | Гумалястаўыя камеры надуваных шынаў . . . . . . . . . . . . . . | 1 | 95 |
| 3. | Пакрышкі надуваных шынаў . . . . | 4 | 75 |
| 4. | Гумалястаўыя цяжкія шыны (пад брычку, пад цяжар) . . . . . . . . . | 2 | 40 |
| 5. | Гумалястаўыя пласьціны без падкладак . . . . . . . . . . . . . . | 1 | 55 |
| 6. | Гумалястаўыя соскі без рубца . . . | 1 | 85 |
| 7. | Гумалястаўая соскі з рубцом . . . | 1 | 90 |

---

## 172. Аб пашырэньні льготнага тарыфу на праезд студэнтаў ВНУ НКАсьветы і камуністычных унівэрсытэтаў гал. пал. асьв. на слухачоў савецкіх партыйных школаў.

У адмену пастановы Тарыфнага Камітэту пры НКШЗ ад 5-га ліпеня 1923 г., Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў:**

Льготны праездны тарыф, устаноўлены дзеля студэнтаў вышэйшых навуковых установаў НКАсьветы і камуністычных універсытэтаў (збор льготных тарыфаў на перавозку пасажыраў, багажу і грузаў пачыгункам Саюзу ССР, выд. 1923 г. тар № 5), пашырыць у ва ўсёй меры на слухачоў савецкіх партшколаў.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкрэтар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

16 жвіуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 195 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 31 жніуня 1923 г.

---

**173** **Аб пашырэньні на ўсю тэрыторыю Саюзу ССР пастановы аб перадачы НКХ складачных памяшканьняў у паласе адчужджэньня чыгунак.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР пастанавіў:

Разтлумачыць, што пастановы СПА ад 16-га траўня 1923 г. аб перадачы НКХарчаваньня складачных памяшканьняў НКШЗ, патрэбных для правядзеньня харчпадатковай кампаніі 1923—24 опэрацыйнага годж і аб арэнднай плаце, якая належыць спагнаньню з НКХарчаваньня за складачныя памяшканьні НКШЗ ў паласе адчужджэньня (З. У. 1923 г. арт. 471), пашыраецца на ўвесь абшар (тэрыторыю) Саюзу ССР.

*Нам Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

16 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 195 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 31 жніуня 1923 г.

---

**174.** **Аб перайначаньні арт. 14 палажэньня аб транспартных тарыфах і аб установах на конт тарыфных справаў.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР пастанавіў: Артыкул 14 палажэньня аб траспартных тарыфах і аб установах на конт тарыфных справаў ад 11 жніўня 1922 г. (Зб. Уз. 1922 г., арт. 653), скласьці у наступнай рэдакцыі:

«Усе разглядваемыя тарыфным камітэтам пытаньні разьвязваюцца прастою большасьцю галасоў; калі галасы разабьюцца пароўну, голас старшыні дае перавагу».

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

16 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 195 „Известий ЦВК Саюзу ССР ад 31 жніуня 1923 г.

---

**175.** **Аб немагчымасьці ўводзіць акцыз у зваротныя сродкі прадпрыемстваў пры абкладваньні гэтых прадпрыемстваў адумысловымі падаткамі.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР пастанавіў:

1. Пры абкладваньні прадпрыемстваў, якія вырабляюць абкладваемыя акцызам рэчы, падаткамі, вылічваемымі залежна ад вялічыні звароту, зьлічво выплачваемага прадпрыемствам акцызу ня уводзіцца у зьлічво звароту.

Увага. Гэта пастанова пашыраецца і на тыя сіндыкаты, якія, маючы манаполію не збываньне якого небудзь вядомага тавару, выплачваюць акцыз замест узглаўляемых імі выраблюючых прадпрыемстваў.

2. У тым разе калі прадпрыемствам будзе адстрочана выплата, зьлічво адстрочанага акцызу замацоўваецца у чырвонцах і на яго налічваюцца проценты у ліку $^1/_2$% у месяц у тых жа грашах, якія пералічваюцца на грашовыя знакі па курсу дня выплаты.

3. Гэта пастанова ўваходзіць у моц з 1-га ліпеня 1923 г.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 195 „Известий“ ЦВК Саюза ССР ад 31 жніуня 1923 г.

---

**176.** **Аб тэрміновасьці адправак харчова-падатковых грузаў НКХарчаваньня.**

Прызнаючы, што перевозкі большай часткі харчовападатковых хлебных грузаў НКХарчаваньня з выданьнем «особных правілаў перавозкі экспортных, воінскіх грузаў» выняты з дзейнасьці чарговай сыстэмы перавозак і што далейшыя выняткі з тарговай сыстамы немагчымы, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР, у мэтах дасягненьня плянамернасьці у перавозках харчовападатковых хлебных грузаў наркамхарчаваньня пастанавіў:

1. Абавязаць НКШЗ прыняць усе меры да павялічэньня парку вагонаў, годных дзеля перавозак насыпных грузаў.

2. Даручыць ЦКП наглядаць за тым, каб перавозкі харчова-податковых хлебных грузаў НКХарчаваньня, якія йдуць у парадку чарговасьці, сваечасова забясьпечываліся паражняком пад насып на ўвесь час масавых перавозак харчова-падатковага хлеба.

3. Даручыць ЦКП і ККП скарыстаць у адносінах харчова-податковых хлебных грузаў НКХарчаваньня свае правы: а) па устанаўленьню асобных чарговых кнігаў дзеля грузаў назначэньнем у асобныя буйныя пункты прыбыцьця і б) па перанясеньню грузаў у вышэйшую катэгорыю, незалежна ад колькасьці грузу, прад'яўляемага у парадку чарговасьці, як ад станцыёных памешканьняў да складваньня, гэтак і з прыпісных складаў НКХарчаваньня.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 195 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 31 жніуня 1923 г.

---

**177.** **Аб дачы дзяржрыбпрамысловасьці дадаткова чатырох рыбных вучасткаў на Далёкім Усходзе.**

У дадатак да пераліку рыбапрамысловых угодзьдзяў, знаходзячыхся у непасрэднай эксплёатацыі дзяржаўнай рыбнай прамысловасьці (З. У. 1922 г., арт. 780), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР пастанаўляе:

Даць дзеля няпасрэднай эксплёатацыі дзяржаўнай рыбнай прамысловасьці наступныя чатыры рыбалоўных вучасткі на Далёкім Усходзе і ліману ракі Амуру:

1) Пуір, 2) Петах, 3) Озэрпах і 4) Вассе.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 195 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 31 жніуня 1923 г.

---

**178. Аб дачы льготнага тарыфу дзеля тавараў, якія йдуць у якасьці экспанатаў на с.-г. выстаўку з акраінаў Расеі.**

Бяручы пад увагу эканамічную адсталасьць акраінаў Саюзу ССР і адлегласьць іх ад месца сел.-гасп. выстаўкі, Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

1. Устанавіць дзеля тавараў, якія йдуць у якасьці экспанатаў на Усерасійскую сел.-гасп. выстаўку у Маскве з Туркестану, Сібіры з Якуцкай краіны, Кіркраю, Каўказу, Закаўказьзя, Мурманск. губ. і Зыранскай краіны, льготныя тарыфы у памеры 25% дзеючых тарыфаў, у гэтых мэтах дазволіць перавозку экспанатаў на выстаўку з скідкай 50% з дзеючых тавараў, а непраданыя экспанаты перавазіць з выстаўкі да станцыі першапачатковай адпраўкі дарэмна.

2. Скідку у 50% дапусьціць пры умове прад'яўленьня на станцыі адпраўкі на кожную адпраўку пасьведчаньня галоўнага выставачнага камітэту у тым, што груз адпраўляецца у якасьці экспаната на выстаўку. Абавязаць выставачны камітэт своечасова загатовіць і разаслаць на месцы памянёныя пасьведчаньні. Дарэмны адваротны правоз рабіць на агульных дзеля ўсіх экспанатаў падставах.

3. На праезд экскурсіяў з паказаных раней акраінаў на выстаўку устанавіць льготны тарыф у памеры 25% дзеючага тарыфу, як у цьвёрдых клясных, гэтак і ў таварных вагонах.

Паказаны льготны тарыф ужываць да экскурсіяў у складзе ня меньш 25 чалавек пры праезду на выстаўку даваць скідку у памеры 50% па прад'яўленьні на станцыі адпраўкі пасьведчаньня галоўн. выставачн. камітэту, а адваротны праезд такіх экскурсіяў дапушчаць дарэмна таксама па пасьведчаньням выставачнага камітэту.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 186 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 21 жніўня 1923 г.

**179. Аб зачыненьні паміжведамсьцьвенага камітэту па забясьпечаньню Туркестанскіх чыгунак ад размываў (Межтуржел) при НКШЗ.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Утвораны пастановаю СПА ад 23 траўня 1922 г. (З. У. 1922 г., арт. 438), паміжведамсьцьвены камітэт пры НКШЗ па забясьпечаньню Туркестанскіх чыгунак ад размываў (Межтуржел), дзеля таго што ім выканаты у асноўным ускладзеныя на яго абавязкі, лічыць ліквіданым з 1 жніўня 1923 г.

2. Згоднасьць пытаньняў аб аб'ёму і характару працы па забясьпечаньню Туркестанскіх чыгунак ад размываў, гэтлая праца зьяўляецца адначасова меліоратыўнай і чыгуначнай, а таксама пытаньняў аб грашовым або іншым удзелу Туркрэспублікі у названай працы ускласьці на мясцовую паміжведамсьцьвеную нараду пры нач. працы на забясьпечаньню Туркдарогаў ад размываў.

3. Нарада дзейнічае па наказу, зацьверджанаму паміжтуркжэлам пр. НКШЗ ад 3 студзеня 1923 г. Гэты наказ у выпадку неабходнасьці можа быць з'іначан НКШЗ па згодзе з прадстаўніцтвам ЦВК і СНК Туркрэспублікі.

4. Пытаньні, паказаныя у арт. 2, патрабуючыя зацьверджаньня СНК, СПА. або цэнтральных ведамстваў павінны разьвязвацца у агульна установленым парадку.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікована у № 197 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 верасьня 1923 г.

**180. Аб забароне вывазу закардон вярблюжай шэрсьці і вярблюжай грывы.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дзейнасьць пастановы УЦВК і СПА ад 11 красавіка 1923 г. (З. У., арт. 338), якой забаронен вываз з усіх саюзных савецкіх рэспублік закардон усіх сартоў грубой авеччай і мерыносавай шэрсьці, годных дзеля апрацаваньня на фабрыках у нутры страны, пашырыць таксама на вярблюжу шэрсьць і вярблюжу грыву.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

24 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 197 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 верасьня 1923 г.

**181. Аб павялічэньні стаўкі канцэлярскага збору.**

На падставе пастановы СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г. аб устанаўленьні цьвёрдай стаўкі канцэлярскага збору («Изв.» ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 10 жніўня 1923 г.),—Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць стаўку канцэлярскага збору у памеры 10 рублёў грашовымі знакамі кшталту 1923 году за кожную поўную або няпоўную старонку тэксту.

2. Даручыць НКГС зьдзейсьніць гэту пастанову па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

31 жніўня 123 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 197 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 верасьня 1923 г.

**182.** **Аб парадку разьмеркаваньня выйгрышнае пазыкі сярод рабочых і служачых.**

Каб павялічыць рэалізацыю выйгрышнае пазыкі і направіць парадак яе разьмеркаваньня, паміж іншым, спыніць здараўшыяся да гэтага часу выпадкі бязсыстэмнае выдачы дзяржаўнымі і гаспадарчымі органамі рабочым і служачым аблігацыяў пазыкі у лік платы за працу, а гэтак сама каб прыцягнуць да удзэлу у рэалізацыі пазыкі багатых, Савет Працы і Абароны **пастанаўляе**:

1. Даручыць НКГС за тыдзень распрацаваць і падаць у СНК дэкрэт аб прымусовым разьмеркаваньні сярод багатых адумысловых аблігацыяў пазыкі, не падлягаючых котыроўцы на біржы і прыёму у заклад.

2. Абавязаць НКГС абмежаваць выдачу аблігацыяў пазыкі, якую ён робіць дзяржаўным установам і прадпрыемствам у лік належачых ім ад дзяржавы выплатаў, лічбамі, якія сапраўды могуць быць імі разьмяркованы па калектыўнай падпісцы занятых у іх рабочых і служачых.

3. Абавязаць НКГС зараз жа ўзяцца за адмену аблігацыяў на грашовыя знакі у тых выпадках, калі праз выдачу аблігацыяў пазыкі у лік бюджэтных асігнаваньняў выдана дзеля выплаты за працу рабочым і служачым больш, чым паказана у звароту ЎЦСПС ад 24 жніўня 1923 г., як:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Калі зарабляе ад 15 да 20 чырв. руб | — | 3% | заработку. |
| 2. | " " " 21 " 30 " " | — | 5% | " |
| 3. | " " " 31 " 45 " " | — | 8% | " |
| 4. | " " " 46 " 60 " " | — | 10% | " |
| 5. | " " " 60 " 90 " " | — | 15% | " |
| 6. | " " " звыш 90 " " | — | 20% | " |

4. Рэалізацыя пазыкі праз калектыўную падпіску сярод рабочых і служачых павінна вясьціся праз належныя установы і прадпрыемствы, дзяржаўныя, знаходзячыяся на гаспадарчым разьлічэньні, камунальныя, коопэратыўныя і прыватныя, якія павінны здабываць у установах па грашовым справам і крэдытных установах, сьпіс якіх публікуецца дзяржаўным банкам, патрэбны лік аблігацыяў, згодна зробленаму вышэй разьмеркаваньню.

5. Памянёным у п. 4-м крэдытным установам пры выдачы ссудаў, а органам НКГС—пры выдачы дзяржаўным установам і прадпрыемствам бюджэтных асігнаваньняў даецца права належную часьціну іх выдаваць аблігацыямі пазыкі у лік тэй колькасьці, якую гэтыя установы і прадпрыемствы павінны узяць дзеля рэалізацыі праз калектыўную падпіску.

6. Забараніць усім, без выключэньня дзяржаўным, камунальным, коопэратыўным і прыватным установам і прадпрыемствам рэалізаваць узятыя, як выкананьне гэтае пастановы, аблігацыі выйгрышнае пазыкі начайі, акрамя памянёнага у п. 4-м і прымусіць іх завясьці ім точны падрахунак.

7. Прымусіць усе крэдытныя установы, а гэтак сама і усе НКГС, у тым ліку і скарбніцы касыашчэднасьці, з'арганізаваць на адумысловых умовах, устаноўліваемых дзеля гэтае апрацы дзяржаўным банкам, выдачу ссудаў пад аблігацыі выйгрышнае пазыкі дробным трымацелям іх у вялічыні 60% намінальнае каоўнасьціти аблігацыі.

8. Установіць ва усіх губэрнях і аўтаномных краінах Саюзу Рэспублік камісіі у складзе старшыні губ. вык. кам., старшыні губ. праф. савету кіраўніка філіалам дзяржбанку і загадчыка губ. аддзелам па граш. справам і з удзелам у працы прадстаўнікоў коопэрацыі (у сельска—гаспадарчых раёнах) або прадстаўнікоў гаспадарчых органаў (прамысловых раёнах) і з узлажэньнем на гэтыя камісіі назіраньня і паверкі гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

3 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 199 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 5 верасьня 1923 г.

---

**183.** **Аб разьмеркаваньні выйгрышнае пазыкі паміж дзяржаўных камунальных і коопэратыўных прадпрыемстваў.**

Дзеля таго каб прыцягнуць дзяржаўныя (у тым ліку камунальныя) і коопэратыўныя прадпрыемствы да большага удзелу у рэалізацыі дзяржаўнае 6% выйграшнае пазыкі, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе** устанавіць адносна памянёных прадпрыемстваў наступны абавязковы парадак дзеля здабыцьця аблігацыяў пазыкі:

1. Як бяруць на паўгода патэнты па прамысловаму падатку, дзяржаўныя (у тым ліку камунальныя) і коопэратыўныя прадпрыемствы павінны нажыць аблігацыяў пазыкі у наступным ліку:

а) як бяруць патэнты на гандлёвыя прадпрыемствы першых двух разрадаў—адну аблігацыю, трэцьцяга разраду—тры аблігацыі, чацьвёртага разраду—дзесяць аблігацыяў і пятага разраду—дваццаць пяць аблігацыяў;

б) як бяруць патэнты на прамысловыя прадпрыемствы першага разраду—адну аблігацыю, другога і трэцьцяга разраду—тры аблігацыі, чацьвертага разраду—пяць, пятага разраду—сем, шостага разраду—дзесяць, сёмага разраду—трынаццаць, восьмага разраду—пятнаццаць, дзевятага разраду—дваццаць, дзесятага разраду—трыццаць, адзінаццатага разраду—сорак і дванаццатага разраду—пяцьдзесят аблігацыяў вартасьцю у 5-ць рублёў.

2. Нар. Ком. Граш. Спр. даручаецца зьдзейсьніць гэтую пастанову па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 202 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 верасьня 1923 г.

---

**184.** **Аб даручэньні камісіі ўнутранага гандлю зрабіць абсьледаваньне сапраўднага ужытку льготаў, устаноўленых дзеля гандлю на Ніжагароцкай ярмарцы 1923 г.**

Дзеля таго каб праверыць ці правідлова і згодна з інтарэсамі народнае гаспадаркі фактычнае ужываньне льготаў, устаноўленых дзеля гандлю на Ніжагароцкай ярмарцы 1923 г., Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Даручыць Камісіі па ўнутранаму гандлю пры СПА зрабіць абсьледаваньне фактычнага ужытку льготаў, устаноўленых дзеля гандлю на Ніжагароцкай ярмарцы 1923 г. пастановою ЎЦВК і СНК ад 20 чэрвеня 1923 г. („Известия" ЎЦВК ад 24 чэрвеня 1923 г.) і другімі пастановамі, і, у тым разе, калі будуць знайдзены неправідловасьці пры ужытку гэтых льготаў. зрабіць неабходныя крокі, каб іх зьніштожыць і прыцягнуць да законнага адказу асобаў, дапусьціўшых памянёныя неправідловасьці.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 208 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 верасьня 1923 г.

---

**185.** **Аб узвышэньні коэфіцыэнту для чыгуначных тарыфаў.**

Савету Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Вызначыць на тэрмін ад 16 да 30 верасьню н. г. уключна для вылічэньня платы за праезд пасажыраў па чыгунках коэфіцыэнт 290 і для вылічэньня платы за правоз багажу і грузаў па чыгунках, а так сама памераў дадатковых і іншых збораў, якія спаганяюцца на тых самых шляхах— коэфіцыэнт 340.

2. Гэтую пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

14 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 191 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 26 жніуня 1923 г.

---

**186.** **Аб выразу стаўкі канцэлярскага збору у чырвонным вылічэньні.**

У разьвіцьцё арт. 1 і 2 пастановы СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г. („Изв. ЦВК Саюзу ССР ад 10 жніўня 1923 г.) і зьменаю пастановы СПА ад 31 жніўня 1923 г. („Изв. ЦВК Саюзу ССР ад 2 верасьня), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанауляе:**

1. Цьвярдую стаўку канцэлярскага збору. вызначаную пастановаю СНК Саюсу ССР ад 27 ліпеня („Изв." ЦВК Саюзу ССР ад 10 жіўня) выразіць у чырвонным вылічэньні ў 0,005 чырвонца.

2. Утвараць спагнаньне канцэлярскага збору грашовымі знакамі водлуг курсу чырвонца ў дзень заплаты або канцэлярскімі маркамі водлуг таго самага курсу.

3. Даручыць НКГС Саюзу ССР паклапаціцца вырабкай канцэлярскіх марак у чырвонным вылічэньні.

4. Тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы вызначаецца народным камісараятам грашовых справаў Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкау.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

14 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана в № 176 „Изестий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 жніуня 1923 г.

---

**187.** **Аб зацьверджаньні інструкцыі ацэначным камісіям наконт вызначэньня і ацэнкі страт ад дратаваньня (патравы) войскамі зямельных угодзьдзяу.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастановіу:**

1. Зацьвердзіць дадаую інструкцыю ацэначным камісіям наконт вызначэньня і ацэнкі страт ад дратаваньня войскамі зямельных угодзьдзяў.

2, Выдаткі на ўзварот паказаных страт адносіць на адпаведныя крэдыты водлуг каштарысу вайсковага ведамству.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкау.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьню 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 190 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 25 жніуня 1923 г.

---

**Інструкцыя ацэначным камісіям наконт вызначэньня і ацэнкі страт ад дратаваньня (патравы) войскамі зямельных угодзьдзяў.**

**§ 1.** Ацэначныя камісіі ўтвараюцца водлуг загаду камандвойск Акругі і водлуг згоды з губвыканкамамі ў складзе: аднаго сябры ад ваеннага ведамству па назначэньню камандвойск акругі, аднаго ад належнага павземупраўленьня і аднаго ад грашаддзелу; старшынёй камісіі зьяўляецца прадстаўнік ваеннага ведамству.

**§ 2.** Камісія зараз-жа, пасьля канцу учоту або манэўраў або атрыманьня заявы аб зробляных стратах, аглядае патаптаныя або сапсаваныя войскамі ўгодзьдзі пры некалькіх (ня менш дваіх) панятых ад суседніх вёсак і, давёўшы да пэўнай вядомасьці прасьцяг папсаваных угодзьдзяў і памеры зробленых страт, робіць ім праўдзівую ацэнку, кіруючыся ў гэтых адносінах сярэднімі рыначнымі цэнамі гэнай мяйсцавосьць.

**§ 3.** Заявы грамадзян аб дратаваньні (патраве) войскамі абробляных земляў і іншых угодзьдзяў павінны быць паданымі пакрыўжанымі не пазьней 7-днёўнага тэрміну ад дня выкрыцьця патравы ў мяйсцовыя валвыканкамы, адкуль гэныя заявы зараз жа накіроўваюцца старшыне камісіі. Заявы пакрыўджаных, паданыя пэзьней паказанага тэрміну, застаюцца бяз разгляду.

**§ 4.** Пасьля атрыманьня заявы аб дратаваньні

(патраве) старшыня камісіі назначае дзень агляду з такім разлікам, каб агляд быў зроблены водлуг мажлівага не пазьней 10-днёўнага тэрміну пасьля ўтварэньня дратаваньня і павецамляе сяброў камісіі і штаб акругі, а так сама мяйсцовы валвыканкам аб дню агляду.

У вызначаны час не мейсца дратаваньня (патравы) зьбіраюцца сябры камісіі, панятыя, якія назначаюцца валвыканкамам ці запрашаюцца камісіяй з ліку мяйсцовых жыхароў, пакрыўджання ці іх упаўнамоцаныя, а водлуг загаду штабу акругі—і прадстаўнікі тых вайсковых частак, якія, водлуг заявы пакрыўджаных, зрабілі дратаваньне (патраву).

Увага. У неабходных выпадках для ацэнкі страт камісіі даецца права запрашаць ведаючых асобаў.

§ **5.** Камісія тут жа на мейсцы складае водлуг вызначанай формы акт, дзе апісваецца фактычнае становішча здратаваных угодзьдзяў. Акт падпісваецца ўсімі сябрамі камісіі, прадстаўнікамі ад частак, землякарыстаньнікамі або іх упаўнамоцанымі, панятымі і ведаючымі асобамі, з адпаведнымі увагамі, ў выпадку нязгоды іх у чым небудзь з актам.

Калі акт падпісаны бяз супярэчак, ён больш ня можа абспрачвацца.

Увага. Упаўнамоцаныя прысутнічаюць пры аглядзе здратаваных угодзьдзяў і ацэнцы страт у тым толькі выпадку, калі здратаванае угодзьдзе знаходіцца ў карыстаньні селянскай грамады ці установы, прадпрыемства, камуны, арцелі і інш., у іншым выпадку прысутнічаюць самі землякарыстаньнікі.

§ **6.** Ацэнка страт, зробленых дратаваньнем (патравай), робіцца камісіяй, па магчымасьці, на мейсцы, зараз пасьля складаньня акту аб фактычным становішчы здратаваных угодзьдзяў, пры чым камісіяй складаецца асобны ацэначны акт, які падпісваецца сябрамі камісіі. Увагі ведаючых асобаў аб зробленых стратах павінны быць зафіксаванымі ў акту.

Увага. Прадстаўнікі вайсковых частак, карыстаньнікі сапсаваных угодзьдзяў, іх упаўнамоцаныя і панятыя ня маюць права рашучага голасу пры ацэнцы.

§ **7.** Калі земякарыстаньнікі або іх упаўнамоцаныя незгаджаюцца з ацэнкай, вызначанай камісіяй згодна § 6, дык падаюць камісіі адпаведную заяву, якая прыкладаецца да памянёнага акту.

Калі хто-небудзь з сяброў камісіі не згаджаецца з іншымі сябрамі, дык ён падае асобны погляд, які так сама дакладаецца да акту. У абаіх выпадках, калі прызнана будзе патрэбным, робіцца тэй жа камісіяй дадатковы агляд і ацэнка страт. Калі і пасьля другога агляду і ацэнкі страт землякарыстаньнікі або іх упаўнамоцаныя будуць не згаджацца з ацэнкай камісіі, ім даецца права зьвярнуцца ў народны суд.

§ **8.** Пры складаньні актаў захоўваюцца наступныя правілы:

1. У акту аб дратаваньні (патраве), які складаецца згодна з § 5, павінны месьціцца весткі аб тым: а) якой часткай войску, якога тэрміну і ў які час зроблена дратаваньне; б) у чым карыстаньні знайходзіцца здратаванае угодзьдзе, пры чым, калі яно знайходзіцца ў карыстаньні некалькіх асобаў, дык у пратакол пішуцца меньні і прозьвішчы кожнага; в) хто былі панятыя (іменьні, прозьвішчы і з якой вёскі; г) хто былі упаўнамоцаныя; д) колькі здратаваных дзесяцін, квадратовых сажняў (мераньне можа адбывацца крокамі) калі здратаваны на вядомым полі асобныя мейсцы (напр. мейсцы дзе стаялі людзі, або палосы, дзе прашлі людзі і вершнікі, або праехалі артылерыйскія арудзьдзі або павозкі), дык на вока або мераньнем крокамі вызначаецца памер здратаванай плошчы; е) якой якасьці здратаванае угодзьдзе (напр. жыта высокае, густое або наадварот, накос з добрай травой, сеянай або нечыстай або з кустамі і курганкамі і г. д.); ж) які выгляд выяўляе дратаваньне (г. ё. пад рад ці палосамі, патаптанае ці зьмятае); з) зусім зьнішчаны расьліны на патаптаных мейсцах ці толькі сапсаваны і, ў апошнім выпадку, у якім памеры.

2. У ацэначным акту, паказаным у § 6, павінна быць напісана, на падставе довадаў акту аб фактычным становішчы патаптаных земляў, падрабязговы разьлік зробленыь землякарыстаньніку страт. Калі карыстаньнікамі патаптанага угодзьдзя зьяўляецца некалькі асобаў, дык у ацэначным акту павінна быць паказана, колькі вызначана камісіяй узнагароды кожнаму з пакрыўджаных.

§ **9.** Зложаныя камісіяй акты з належнымі падпісамі і дадаткамі, калі гэткія былі (§ 7) перадаюцца старшыні камісіі, які безагладна павінен падаць паказаныя дакумэнты ў штаб акругі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 188. Аб ўсерасійскім перапісу аружжа 2-га студзеня 1924 г.

Дзеля мэты учоту налічча кулямётаў і ручнога халоднага аружжа, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Зрабіць на ўсім абшары Саюзу ССР адначасовы перапіс кулямётаў і ручнога агнястрэльнага і халоднага аружжа, нарэзнага (шурубам) агнястрэльнага аружжа тыпу вайсковых модэляў і нарэзных рэвольвераў і пісталетаў не вайсковых кшталтаў, якія знаходзяцца:

а) у ва ўсіх узброеных атрадах, у установах і арганізацыях (ня выключаючы палітычныя), якія трымаюць аружжа або маюць гэткае ў падлеглых ім асоб, або асоб, якія лічуцца ў іх складзе.

б) у аддзельных асоб ня выключаюцы маючых аружжа водлуг мотываў палітычнага характару.

2. Перапіс утварыць 2 студзеня 1924 г.

3. Парадак утварэньня перапісу аружжа ў ваенным і марскім ведамствах і ў частах Асобнага Назначэньня вызначыць загадам РВСР.

4. Перапіс аружжа ў войсках ДПУ, у войсках прымежных, у карпусох канвойнай варты, у міліцыі і ў абароне шляхаў зносін утварыць парадкам, вызначаным водлуг згоды з РВСР, НКШЗ і НКУС—водлуг належнасьці.

5. Перапіс аружжа, якое маецца ў арганізацыях компартыі і камсамолу, а так сама выдадзена паасобным іх сябрам і кандыдатам з аружжа, належачага памянёным арганізацыям, утварыць праз Камісію пры

а (паведных штабах частак Асобнага Назначэньня, незалежна ад таго, знаходзяцца памянёныя сябры і кандыдаты на службе ў якіх колечы установах і арганізацыях ці не.

6. Перапіс аружжа, якое знаходзіцца ў іншых установаў, прадпрыемстваў, арганізацыяў і прыватных асобаў утварыць праз адумысловыя губэрскія і паявтовыя камітіі. Парадак утварэньня перапісу вызначыць загадам аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага упраўленьня водлуг згоды з РВСР.

7. Перапіс аружжа, выданага паасобным асобам, якія знаходзяцца на дзяржаўнай службе, у тым ліку сябрам і кандыдатам кампартыі і камсамолу з запасаў аружжа, якое лічыцца за мейсцамі службы, утварыць парадкам, вызначаным для установаў і арганізацыяў, у якіх гэтыя асобы знаходзяцца на службе.

8. Агульнае кірауніцтва перапісам, выроб бланкаў ведамасьцяў для утварэньня перапісу і снабжэньнямі даручыць:

а) ў Ваенным і марскім ведамствах і ў частках. Асобнага назначэньня—на РВСР.

б) у ва усіх іншых выпадках—на АДПУ.

9. Агульныя сводкі ведамасьцяў перапісжу аружжа падаць у РВСР да 30 красавіка 1924 г. парадкам, вызначаным РВСР водлуг згоды з АДПУ.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Масква—Кремль.
16 ліпеня 1923 г.

## 189. Аб даручэньні НКГС другі раз разыграць выйгрыш у 100.000 рублеў золатам, які выпаў на непраданую аблігацыю Дзяржаўнае 6% выйгрышнае пазыкі.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанауляе:**

Даручыць НКГС выйгрыш у 100.000 рублеў золатам, які выпаў у другім тыражу выйгрышаў Дзяржаўнае 6% выйграшнае пазыкі на непраданую аблігацыю сэр. 06 № 1.100.665 разыграць у наступны тыраж выйгрышаў у кастрычніку 1923 г. зьверх вызначанага водлуг агульнага пляну тыражоў агульнага зьлічва выйгрышаў.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*За Сэкратара СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Масква — Крэмль.
14 верасьня 1923 г.

## 190. Аб дазволу вывазу ў Кітай, са звальненьнем ад акцызу, прэсаваных дрожджаў, якія вырабляюцца Чыцінским заводам.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў:**

На падставе арт. 3 пастановы ЎЦВК і СНК ад 11 студзеня 1923 г. г. аб заходах дапамогі вывазу (З. У. РСФСР № 3 арт. 60), дазволіць Чыцінскаму дзяржаўнаму заводу вываз у Кітай, са звальненьнем ад акзызу, прэсаваных дрожджаў, выраблаемых на памянёным заводу.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.
Апублікавана у № 176 „Известій ЦВК Саюзу ССР ад 8 жніуня 1923 г.

## 191. Аб пашырзньні на расейскі каньяк льготаў, прадгледжаных арт. 1-м пастановы УЦВК и СНК ад 11-га студзеня 1923 г. об мерах даламоги вывазу.

На падставе арт. 3 пастановы ЎЦВК і СНК ад 11 студзеня 1923 г. аб заходах дапамогі вывазу (З. У. РСФСР № 3 арт. 60), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Уключыць у пералічэньне тавараў, па якія пашыраюцца льготы, прад'гледжаныя арт. 1-м пастановы ЎЦВК і СНК ад 11 студзеня 1923 г. заходах дапамогі вывазу,—расейскі каньяк.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.
Рэспублікавана у № 172 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 2 жніуня 1923 г.

## 192. Аб цэнах на прадукты, якія адпушчаюцца дзяржорганам з дзярфонду на ліпень месяц 1923 г.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. За падставу пры разліках з дзяржорганамі на ліпень месяц 1923 г. за харчаваньне, якое адпушчаецца ім з дзяржаўнага харчовага фонду для прамысловасьці, транспарту, а так сама для іншых патрэбаў, прыняць наступныя цэны аднаго пуду жыта і аўса па губэрнях, краінах і рэспубліках:

| | 1 пуд жыта. | 1 пуд ауса. |
|---|---|---|
| 1. Вітабская губэрня | 50 р. | 60 р. |
| 2. Гомельская „ | 60 „ | 40 „ |
| 3. Смаленская „ | 60 „ | 50 „ |
| 4. Беларуская ССР | 60 „ | 55 „ |
| 5. Бранская губэрня | 52 „ | 50 „ |
| 6. Тульская „ | 45 „ | 40 „ |
| 7. Арлоўская „ | 45 „ | 40 „ |
| 8. Варонежская „ | 30 „ | 40 „ |
| 9. Тамбоўская „ | 42 „ | 42 „ |
| 10. Разанская „ | 45 „ | 50 „ |
| 11. Курская „ | 45 „ | 40 „ |
| 12. Пензенская „ | 50 „ | 40 „ |
| 13. Данская Краіна | 28 „ | 35 „ |
| 14. Кубана-Чарнаморская Краіна | 28 „ | 22 „ |
| 15. Стаўрапальская губ. | 28 „ | 20 „ |
| 16. Тверская „ | 28 „ | 20 „ |
| 17. Букееўская „ | 25 „ | 35 „ |
| 18. Уральская „ | 30 „ | 35 „ |
| 19. Арэнбурская „ | 25 „ | 35 „ |
| 20. Кустанайская „ | 25 „ | 35 „ |
| 21. Актюбінская „ | 25 „ | 35 „ |
| 22. Саратаўская „ | 27 „ | 45 „ |
| 23. Немкаммуна | 27 „ | 45 „ |
| 24. Царыцынская губ. | 35 „ | 35 „ |
| 25. Астраханская „ | 40 „ | 45 „ |
| 26. Аўт. Чувашск. Краіна | 50 „ | 40 „ |
| 27. Аўт. Марыйская „ | 40 „ | 40 „ |
| 28. Татрэспубліка. | 40 „ | 40 „ |
| 29. Самарская губ. | 38 „ | 40 „ |
| 30. Сімбірская „ | 50 „ | 45 „ |
| 31. Башрэспубліка | 20 „ | 20 „ |

| | 1 пуд жыта. | 1 пуд ауса. |
|---|---|---|
| 32. Крым | 43 р. | 50 р. |
| 33. Вятская губэрня | 70 „ | 58 „ |
| 34. Вотская Аўт. Краіна | 70 „ | 58 „ |
| 35. Пермская губэрня. | 47 „ | 38 „ |
| 36. Чэлябінская. „ | 30 „ | 20 „ |
| 37. Тюменская „ | 30 „ | 20 „ |
| 38. Кацярынбургская губ. | 35 „ | 45 „ |
| 39. Архангельская губ. | 90 „ | 70 „ |
| 40. Аўт. Зыранск. (Комі) Краіна | 90 „ | 70 „ |
| 41. Валагадская губ. | 90 „ | 60 „ |
| 42. Паўночна-Дзьвінская губ. | 85 „ | 60 „ |
| 43. Петраградск. губ. і г. Петроград | 77 „ | 70 „ |
| 44. Тверская губ. | 80 „ | 60 „ |
| 45. Яраслаўская губ. | 70 „ | 45 „ |
| 46. Кастрамская „ | 65 „ | 50 „ |
| 47. Калужская „ | 50 „ | 45 „ |
| 48. Іванава-Вазнясенская | 75 „ | 55 „ |
| 49. Уладзімірская губ. | 75 „ | 60 „ |
| 50. Ніжагародская губ. | 55 „ | 40 „ |
| 51. Мурманская губэрня. | 77 „ | 65 „ |
| 52. Карэльская Працкамуна | 65 „ | 65 „ |
| 53. Чарапавецкая губэрня | 70 „ | 65 „ |
| 54. Наўгародская „ | 70 „ | 65 „ |
| 55. Пскоўская губ. | 80 „ | 60 „ |
| 56. Маскоўская і г. Масква | 70 „ | 70 „ |
| 57. Омская губэрня | 35 „ | 40 „ |
| 58. Енісейская губ. | 40 „ | 40 „ |
| 59. Томская губ. | 35 „ | 40 „ |
| 60. Іркутская „ | 45 „ | 40 „ |
| 61. Акмолінская губ. | 45 „ | 40 „ |
| 62. Семіпалацінская губ. | 40 „ | 40 „ |
| 63. Алтайская губ. | 35 „ | 40 „ |
| 64. Нова-Мікалаеўская губ. | 45 „ | 40 „ |
| 65. Кіеўская губ. | 58 „ | 55 „ |
| 66. Падольская губ. | 40 „ | 35 „ |
| 67. Валынская „ | 40 „ | 40 „ |
| 68. Чарнігаўская губ. | 40 „ | 35 „ |
| 69. Харкаўская „ | 38 „ | 32 „ |
| 70. Кацярынаслаўская губ. | 40 „ | 25 „ |
| 71. Палтаўская губ. | 30 „ | 35 „ |
| 72. Адэская (без г. Нікалаева) | 55 „ | 50 „ |
| 73. г. Нікалаеў. | 38 „ | 35 „ |
| 74. Данецкая губэрня | 20 „ | 35 „ |
| 75. Туркестан | 27 „ | — |

II. Пры разліках за адпускаемую пшаніцу прыняць наступныя сярэднія цэны аднаго пуду пшаніцы водлуг раёнаў:

| | |
|---|---|
| 1. Заходні раён | 60 руб. |
| 2. Цэнтр. земляр. раён. | 50 „ |
| 3. Паўночны Каўказ. | 40 „ |
| 4. Кіргізія | 50 „ |
| 5. Ніжне-Волжскі раён | 55 „ |
| 6. Сярэдне-Волжскі | 60 „ |
| 7, Крым | 60 „ |
| 8. Паўночна-Усходні раён | 50 „ |
| 9, Паўночны раён. | 95 „ |
| 10. Прывазёрны. | 85 „ |
| 11. г. Петраград і губ. | 80 „ |
| 12. Цэнтр. Прам. раён | 95 „ |
| 13. г. Масква і губэрня | 90 „ |
| 14. Сыбір | 60 руб. |
| 15. Украіна | 70 „ |
| 16. Туркестан. | 55 „ |

III. Вызначыць наступныя жытнія эквіваленты на ліпень м-ц 1923 г.

За 1 пуд пшана кондыцыйнае якасьці—1 п. ½ ф. жыта.

За 1 пуд круп грэцкавых (абдзёртых)—1 п. 25 ф. жыта.

За 1 пуд мяса—7 п. 60 ф. жыта

За 1 пуд алею (са сланэчніку)—7 п. 24 ф. жыта.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

3 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль,

---

## 193. Аб цэнах на прадукты, якія адпушчаюцца дзяржорганам з дзяржфонду на жнівень месяц 1923 г.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў:**

I. За падставу пры разліку з дзяржорганамі на жнівень месяц 1923 г. за харчаваньне, якое адпушчаецца ім з дзяржаўнага харчовага фонду для прамысловасьці, транспарту, а так сама для іншых патрэбаў, прыняць наступныя сярэднія цэны аднаго пуду жыта і аўса па губэрнях, краінах і рэспубліках:

| | 1 пуд жыта. | 1 пуд ауса. |
|---|---|---|
| 1. Вітабская | 90 р. | 90 р. |
| 2. Гомельская. | 90 „ | 90 „ |
| 3. Смаленская | 95 „ | 75 „ |
| 4. Беларуская ССР | 70 „ | 90 „ |
| 5. Бранская губ. | 70 „ | 75 „ |
| 6. Тульская „ | 60 „ | 55 „ |
| 7. Арлоўская „ | 60 „ | 60 „ |
| 8. Варонежская губ. | 50 „ | 60 „ |
| 9. Тамбоўская „ | 50 „ | 60 „ |
| 10. Разанская „ | 62 „ | 85 „ |
| 11. Курская „ | 45 „ | 45 „ |
| 12. Пензенская „ | 38 „ | 40 „ |
| 13. Данская Краіна | 40 „ | 40 „ |
| 14. Куб.-Чарнаморск. Краіна | 30 „ | 32 „ |
| 15. Стаўрапальская | 30 „ | 30 „ |
| 16. Терская | 30 „ | 30 „ |
| 17. Кукееўская Арда | 30 „ | 45 „ |
| 18. Уральская | 40 „ | 60 „ |
| 19. Арэнбурская | 48 „ | 80 „ |
| 20. Кустанайская | 45 „ | 60 „ |
| 21. Актюбінская | 45 „ | 60 „ |
| 22. Саратаўская губ. | 61 „ | 38 „ |
| 23. Немкамуна. | 61 „ | 38 „ |
| 24. Царыцынская губ. | 50 „ | 35 „ |
| 25. Астраханская „ | 70 „ | 100 „ |
| 26. Аўт. Чувашская Краіна | 60 „ | 65 „ |
| 27. Аўт. Марыйская „ | 60 „ | 55 „ |
| 28. Татрэспубліка | 60 „ | 65 „ |
| 29. Самарская губ. | 49 „ | 60 „ |
| 30. Сімбірская „ | 45 „ | 45 „ |
| 31. Башрэспубліка | 50 „ | 45 „ |
| 32. Крым | 55 „ | 65 „ |
| 33. Вятская губ. | 95 „ | 65 „ |

| | 1 пуд жыта. | 1 пуд ауса. |
|---|---|---|
| 34. Вотская Авт. Краіна | 95 р. | 65 р. |
| 35. Пермская губ. | 55 „ | 60 „ |
| 36. Чэлябінская губ. | 55 „ | 50 „ |
| 37. Тюменская „ | 55 „ | 48 „ |
| 38. Кацярынбурская губ. | 55 „ | 50 „ |
| 39. Архангельская „ | 115 „ | 95 „ |
| 40. Аўт. Зыранская (Комі) Краіна | 115 „ | 95 „ |
| 41. Валагодская губ. | 113 „ | 82 „ |
| 42. Паўночна-Дзьвінская губ. | 114 „ | 80 „ |
| 43. Петраградск. губ. і г. Петраград | 100 „ | 82 „ |
| 44. Тверская губ. | 85 „ | 80 „ |
| 45. Яраслаўская губ. | 90 „ | 80 „ |
| 46. Кастрамская „ | 82 „ | 75 „ |
| 47. Калужская „ | 55 „ | 65 „ |
| 48. Іванава-Вазнесенск. губ. | 80 „ | 55 „ |
| 49. Влавімірская губ. | 80 „ | 85 „ |
| 50. Ніжагародская „ | 70 „ | 75 „ |
| 51. Мурманская „ | 100 „ | 82 „ |
| 52. Карэльская Агт. ССР. | 100 „ | 82 „ |
| 53. Алонецкая губ. | 100 „ | 82 „ |
| 54. Чарапавецкая губ. | 130 „ | 85 „ |
| 55. Наўгародская „ | 130 „ | 85 „ |
| 56. Пскоўская „ | 135 „ | 77 „ |
| 57. Маскоўская губ. і г. Масква | 71 „ | 75 „ |
| 58. Омская губ. | 50 „ | 65 „ |
| 59. Енісейская губ. | 65 „ | „5 „ |
| 60. Томская „ | 50 „ | 60 „ |
| 61. Іркутская „ | 55 „ | 50 „ |
| 62. Акмолінская „ | 45 „ | 45 „ |
| 63. Семіпалацінская губ. | 45 „ | 45 „ |
| 64. Алтайская „ | 45 „ | 45 „ |
| 65. Нова-Мікалаеўская губ. | 50 „ | 40 „ |
| 66. Кіеўская губ. | 50 „ | 55 „ |
| 67. Падольская губ. | 40 „ | 45 „ |
| 68. Валынская „ | 40 „ | 50 „ |
| 69. Чарнігаўская губ. | 45 „ | 55 „ |
| 70. Харкаўская „ | 40 „ | 40 „ |
| 71. Кацярінаслаўская губ. | 40 „ | 40 „ |
| 72. Палтаўская губ. | 40 „ | 45 „ |
| 73. Адэская (бяз г. Нікалаева) | 40 „ | 50 „ |
| 74. Г. Ніколаеў | 35 „ | 50 „ |
| 75. Данецкая губ. | 35 „ | 50 „ |
| 76. Туркестан | 48 „ | 48 „ |
| 77. Закаўказьзе | 30 „ | 30 „ |

II. Пры разліку за адпускаемую пшаніцу прыняць наступныя сярэднія цэны аднаго пуду пшаніцы водлуг районаў:

| | |
|---|---|
| 1. Для заходняга району | 95 руб. |
| 2. Для цэнтр. земляр. | 65 „ |
| 3. Па Паў. Каўказу | 50 „ |
| 4. Дла Кіргізіі | 80 „ |
| 5. Для Ніжне-Волжск. району | 90 „ |
| 6. Для Сярэдня-Волжскага район. | 95 „ |
| 7. Крыма. | 95 „ |
| 8. Паўночна-Усходняга района | 80 „ |
| 9 Для Паўночнага району | 120 „ |
| 10. Для Прывазёрнага району | 120 „ |
| 11. Для г. Петраграду і губ. | 110 „ |
| 12. Для Цэнтр. Прам. району. | 95 „ |
| 13. Для г. Масквы і губ. | 90 „ |
| 14. Сыбіру. | 70 руб. |
| 15. Украіны | 75 „ |
| 16. Туркестану | 75 „ |
| 17. Закаўказьзе. | 50 „ |

III. Вызначыць наступныя жытнія эквіваленты на жнівень м-ц 1923 г.

| | | |
|---|---|---|
| За 1 пуд пшаніцы кондыцыйнае якасьці | 1 п. — | жыта |
| За 1 п. грэцкіх круп (абдзёртых). | 1 п. 30 ф. | „ |
| За 1 п. мяса. | 7 п. 06 ф. | „ |
| За 1 п. алею (са сланэчніку). | 10 п. — | „ |

*Нам. Старшыні Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Нам. Сэкратар СПА Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

8 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 194. Аб цэнах на прадукты, якія адпушчаюцца дзяржорганам з дзяржфонду на верасень 1923 г.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанауляе:**

1. За падставу пры разліку з дзяржорганамі на верасень месяц 1923 г. за харчаваньне, якое адпушчаецца ім з дзяржаўнага харчовага фонду для прамысловасьці, транспарту, а так сама для іншых патрэбаў, прыняць наступныя сярэднія цэны аднаго пуду жыта і аўса па губэрнях, краінах і рэспубліках:

| | 1 пуд жыта. | 1 пуд ауса. |
|---|---|---|
| 1. Вітабская губэрня | 115 р. | 90 р. |
| 2. Гомельская „ | 100 „ | 80 „ |
| 3. Смаленская „ | 115 „ | 130 „ |
| 4. Беларуская ССР | 110 „ | 130 „ |
| 5. Бранская губэрня | 110 „ | 90 „ |
| 6. Тульская „ | 105 „ | 85 „ |
| 7. Арлоўская „ | 100 „ | 85 „ |
| 8. Варонежская „ | 90 „ | 85 „ |
| 9. Тамбоўская „ | 90 „ | 85 „ |
| 10. Разанская „ | 150 „ | 125 „ |
| 11. Курская „ | 90 „ | 85 „ |
| 12. Пензенская „ | 100 „ | 85 „ |
| 13. Данская краіна | 50 „ | 70 „ |
| 14. Кубана-Чарнаморская краіна. | 50 „ | 75 „ |
| 15. Стаўрапальская губ. | 50 „ | 60 „ |
| 16. Терская губэрня | 50 „ | 60 „ |
| 17. Букееўская арда | 110 „ | 175 „ |
| 18. Уральская губэрня | 110 „ | 175 „ |
| 19. Арэнбурская губ. | 110 „ | 175 „ |
| 20. Кустанайская губ. | 110 „ | 175 „ |
| 21. Актюбінская губ. | 110 „ | 175 „ |
| 22. Саратаўская „ | 100 „ | 100 „ |
| 23. Немкамуна | 100 „ | 100 „ |
| 24. Царыцынская губ. | 85 „ | 100 „ |
| 25. Астраханская „ | 190 „ | 140 „ |
| 26. Аўт. Чувашская краіна | 155 „ | 145 „ |
| 27. Аўт. Марыйская „ | 155 „ | 145 „ |
| 28. Татрэспубліка | 140 „ | 145 „ |
| 29. Самарская губ. | 115 „ | 100 „ |
| 30. Сімбірская „ | 110 „ | 100 „ |
| 31. Башрэспубліка. | 95 „ | 100 „ |
| 32. Крым. | 65 „ | 75 „ |
| 33. Вятская губ. | 150 „ | 125 „ |

| | | 1 пуд жыта. | 1 пуд ауса. |
|---|---|---|---|
| 34. | Аўт Вотская Краіна | 160 „ | 125 „ |
| 35. | Пермская губ. | 140 „ | 125 „ |
| 36. | Чэлябінская губ. | 80 „ | 100 „ |
| 37. | Тюменская губ. | 100 „ | 100 „ |
| 38. | Кацярынбурская губ. | 100 „ | 100 „ |
| 39. | Архангельская губ. | 250 „ | 200 „ |
| 40. | Аўт. Зыранская (Комі) Краіна | 250 „ | 200 „ |
| 41. | Валагодская губ. | 200 „ | 150 „ |
| 42. | Паўночн.-Дзьвінская губ. | 250 „ | 175 „ |
| 43. | Петраградская г. і г. Петраград | 150 „ | 100 „ |
| 44. | Тверская губ. | 170 „ | 180 „ |
| 45. | Яраслаўская губ. | 190 „ | 170 „ |
| 46. | Кастрамская „ | 200 „ | 190 „ |
| 47. | Калужская губ. | 110 „ | 120 „ |
| 48. | Іван.-Вазняс. губ. | 210 „ | 150 „ |
| 49. | Владзімірская „ | 210 „ | 160 „ |
| 50. | Ніжагародская губ. | 150 „ | 140 „ |
| 51. | Мурманская губ. | 250 „ | 170 „ |
| 52. | Карэльская Аўт. ССР | 250 „ | 170 „ |
| 53. | Чарапавецская губ. | 180 „ | 150 „ |
| 54. | Наўгародская губ. | 180 „ | 150 „ |
| 55. | Пскоўская губ. | 160 „ | 150 „ |
| 56. | Маск. г. і гор. Масква | 155 „ | 175 „ |
| 57. | Омская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 58. | Енісейская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 59. | Томская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 60. | Іркутская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 61. | Акмолінская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 62. | Сяміпалацінская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 63. | Алтайская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 64. | Н. Нікалаеўская губ. | 130 „ | 125 „ |
| 65. | Кіеўская губ. | 85 „ | 85 „ |
| 66. | Падольская губ. | 65 „ | 100 „ |
| 67. | Валынская губ. | 90 „ | 85 „ |
| 68. | Чарнігаўская губ. | 90 „ | 60 „ |
| 69. | Харкаўская губ. | 90 „ | 85 „ |
| 70. | Кацярынаслаўская губ. | 60 „ | 65 „ |
| 71. | Палтаўская губ. | 60 „ | 85 „ |
| 72. | Адэская (бяз г. Нікалаеву) | 70 „ | 75 „ |
| 73. | г. Ніколаеў | 50 „ | 50 „ |
| 74. | Данецкая губ. | 70 „ | 60 „ |
| 75. | Туркестан. | 145 „ | 150 „ |
| 76. | Закаўказьзе | 75 „ | — |

II. Пры разліках за адпушчаемую пшаніцу прыняць на верасень наступныя сярэднія цэны аднаго пуду пшаніцы водлуг районаў:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Заходні район | 175 р. |
| 2. | Цэнтр. Земляр. район | 175 „ |
| 3. | Паў. Каўказ | 100 „ |
| 4. | Кіргізія | 200 „ |
| 5. | Ніжне Волжскій р. | 175 „ |
| 6. | Сярэдня-Волжскій р. | 180 „ |
| 7. | Крым | 115 „ |
| 8. | Паўн. Усход. район | 170 р. |
| 9. | Паўночны район | 250 „ |
| 10. | Прывазёрны район | 250 „ |
| 11. | г. Петраград і губ. | 250 „ |
| 12. | Цэнтр. Прам. район | 220 „ |
| 13. | г. Масква і губ. | 220 „ |
| 14. | Сыбір | 190 „ |
| 15. | Украіна правабярэжная | 125 „ |
| 16. | „ левабярэжная | 110 „ |
| 17. | „ паўднёвая | 100 „ |
| 18. | Туркестан | 280 „ |
| 19. | Закаўказьзе | 150 „ |

III. Вызначыць наступныя жытнія эквіваленты на верасень 1923 г.:

| | | |
|---|---|---|
| За 1 пуд | пшана кондыцыйнае якасьці | 1 п. 9 ф. жыта. |
| „ „ „ | круп грацковых (абдзёртых) | 1 „ 29 „ „ |
| „ „ „ | мяса | 7 „ 24 „ „ |
| „ „ „ | алею (са сланэчніку) | 14 „ 36 „ „ |

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкау.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьню 1923 г.
Масква – Крэмль.

## 195. Аб утварэньні кіраўніцтва Заходніх чыгунак.

У адпаведнасьці з арт. арт. 2 і 13 палажэньня аб кіраўніцтвах чыгунах (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 3 арт. 78) Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Арганізаваць кіраўніцтва Заходніх чыгунак пад старшынствам упаўнаркамшляху т. Я. Р. Вершыловіча, з аселасьцю ў Гомелі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 196. Аб зацьверджаньні старшыні кіраўніцтва Маскоўска—Беларуска—Балтыцкае чыгункі.

Згодна з арт. 13 палажэньня аб кіраўніцтвах чыгунак (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 3, арт. 78) Савет Працы і Абароны **пастанавіў:**

Зацьвердзіць тав. Межына Ю. Ю. старшынёю кіраўніцтва Маскоўска—Беларуска—Балтыцкае чыгункі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Главлит № 14596 Тираж 5.000 экз.

„Мосполиграф"—20-я тип. „Красный Пролетарий", Пименовская, 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

## НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ І ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача *(з дыяграмамі і статыстычнымі довадамі).*
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы *(разам і асобна).*
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы *(разам і асобна).*
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР *(двухтыднёвік).* *№№ 1, 2, 3, 4 і 5.*

**АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:**
**МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.**
**ТЭЛЕФОНЫ:** Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

---

**ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА**
**ГАЛОЎНОЙ КАНТОРАЙ „ВЕСЬНІКУ ЎРАДУ“.**
МАСКВА, Цьвярская, 48.
(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ“ ЦВК САЮЗУ ССР і ЎЦВК).